Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 34 (4732) 30 жніўня 2013 г.

# XX Дзень беларускага пісьменства

# Быхаў-2013



Фота Анатоля Клешчука, калаж Віктара Калініна

# У чаканні галоўнага літаратурнага свята



Лілія Ананіч дэманструе медаль, выпушчаны спецыяльна да свята.

**Напярэдадні XX Дня беларускага пісьменства ў Быхаве адбылася прэс-канферэнцыя першага намесніка міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ліліі Ананіч.**

Лілія Станіславаўна зазначыла, што свята збірае лепшыя літаратурныя дасягненні краіны — па зернейку з кожнага рэгіёна. Калі параўнаць кніжна-літаратурныя вынікі за апошнія гады, відавочна, што дынаміка станоўчая. «У гэтым годзе мы не знізілі ні якасныя, ні колькасныя паказчыкі нацыянальнага кнігавыдання. Калі летась у нас было звыш 11 тысяч найменняў кніг і больш як 35 мільёнаў накладу, то за першае паўгоддзе 2013 года — 5 тысяч 960 найменняў агульным накладам больш як 15 мільёнаў асобнікаў». Гэтыя лічбы павінны ўразіць яшчэ мацней, калі ўлічыць, што на кніжным рынку і ў свядомасці значнай часткі чытачоў настойліва сцвярджае сябе электронная кніга.

Лілія Ананіч засяродзіла ўвагу на адметнай падзеі, якая адбылася днямі ў Мінску. Культурная грамадскасць упершыню пабачыла выданне «Баркулабаўскі летапіс» у двух тамах. Тыраж факсіміле — 100 асобнікаў, навуковай часткі — 1000. Вядуцца перамовы з расійскім бокам накошт павелічэння тыражу факсімільнага тома. «Беларусы маюць права захоўваць у бібліятэках выданне, якое адлюстроўвае вялікі перыяд жыцця нашай краіны, дэманструе, наколькі моцныя карані беларускай дзяржаўнасці, беларускай мовы і культуры».

Распавядаючы пра праграму свята, Лілія Ананіч паведаміла, што пачалася рэспубліканская навукова-асветніцкая экспедыцыя «Дарога да святыняў» з Благадатным Агнём ад Гроба Гасподняга.

Разынкай юбілейных святкаванняў стане адкрыццё манументальнай скульптурнай кампазіцыі «Баркулабаўскі летапіс». Яна складзеная са знакавых элементаў гісторыі духоўнага і культурнага жыцця быхаўскага краю: унікальнага помніка беларускага пісьменства «Баркулабаўскі летапіс» і іконы Божай Маці Баркалабаўскай.

**Тацццяна СТУДЗЕНКА, фота прадастаўлена Нацыянальным прэс-цэнтрам Рэспублікі Беларусь**

# Прысвечана герою-танкісту

**Сёлета споўнілася 72 гады з часу здзяйснення подзвігу Зіновія Калабанава. Менавіта гэтай падзеі была прысвечана міжнародная спартыўна-патрыятычная эстафета «Памяць», якая праводзілася 17 — 23 жніўня. Беларускія і расійскія спартсмены праехалі па маршруце Гатчына — Пскоў — Невель — Віцебск — Барысаў — Мінск.**

Фота Кастуся Дробава



Мікалай Чаргінец прымае рапарт кіраўніка марафонскай групы Сяргея Собалева.

Але звернемся спачатку да гісторыі. 20 жніўня 1941 года танк старшага лейтэнанта Зіновія Калабанава знішчыў 22 браніраваныя нямецкія машыны, якія рваліся ў Ленінград. Рота з пяці танкаў пад камандаваннем Калабанава правяла непадалёк ад Гатчыны ўнікальны нават па сучасных мерках бой, спыніўшы з засады 43 варожыя машыны, і даказала, што і непераможныя нямецкія часці могуць быць пабітыя.

— Яшчэ нядаўна ў Беларусі мала хто ведаў пра героя-танкіста, — зазначыў натхняльнік патрыятычнай акцыі старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец. — Падчас вайны з фінамі яго падначаленыя прарвалі лінію Манергейма. Калабанава прадставілі да Героя Савецкага Саюза. Але салдаты пачалі братацца з фінамі. Камандзіра разжалавалі, аднак яго баявы вопыт хутка спатрэбіўся Радзіме. Зіновій Калабанаў геройскі праявіў сябе ў барацьбе з фашыстамі. Пасля вайны служыў у Мінску, працаваў на аўтазаводзе. Пахаваны на Чыжоўскіх могілках на Алеі Славы.

Так атрымалася, што Саюз пісьменнікаў Беларусі пры падтрымцы Пасольства Расійскай Федэрацыі, кіраўніцтва расійскіх і беларускіх гарадоў, праз якія пралягаў шлях марафонцаў, выступіў галоўным арганізатарам эстафеты «Памяць», якая ўрачыста стартавала ад будынка СПБ. Знайшліся і спонсары: Мінскі трактарны завод, шэраг грамадскіх арганізацый, прадпрымальнікі.

У горадзе Гатчына, дзе ўстаноўлены помнік Зіновію Калабанаву, беларускіх і расійскіх спартсменаў цёпла віталі ўдзельнікі шматтысячнага мітынгу. Удзельнікі эстафеты пабывалі на месцы знакамітага бою, у Дзяржаўным музеі-заказніку «Гатчына». Шмат уражанняў атрымалі ад сустрэч з жыхарамі Пскова, Лугі, Віцебска, Сянно і асабліва Талачына, дзе пахаваны Андрэй Усаў, камандзір гарматы танка Калабанава. Падчас фінішу на Плошчы Перамогі ў Мінску «марафонцаў» віталі прадстаўнікі Нацыянальнага сходу Беларусі, Мінскага гарвыканкама, воіны-афганцы. Удзельнікі прабегу прапанавалі зрабіць яго штогадовым.

— Мэта эстафеты — яшчэ раз звярнуць увагу на гераічныя падзеі Вялікай Айчыннай вайны, ажывіць у памяці людзей веліч мінулага, калі на алтар Вялікай Перамогі былі пакладзены мільёны жыццяў, — зазначыў Мікалай Чаргінец. — Наша моладзь не такая бяспамятная, як іншы раз можна пачуць. Гэты прабег — пацвярджэнне. Бачна, што сённяшнія юнакі і дзяўчаты жадаюць больш даведацца пра подзвіг сваіх бацькоў і дзядоў.

**Раіса МАРЧУК**

# Варта мецць яшчэ адну намінацыю!

Фота Кастуся Дробава



**Пра тое, як творцы падрыхтаваліся да сёлетняга Дня беларускага пісьменства, распавёў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец.**

— Прыемна, што пісьменнікі ўсіх узростаў, якія пішуць у розных жанрах, чакаюць гэтага свята, як адмысловага экзамену, на якім гавораць пра зробленае за год, трымаюць адказную справаздачу. Таму рыхтуюцца вельмі грунтоўна.

Сёлета ўдзельнікам прыйшлося нават пазмагацца, каб патрапіць у склад дэлегацыі. Прынята рашэнне, што ад кожнай вобласці на свята едуць 10 прадстаўнікоў, ад горада Мінска, дзе найбольш буйная арганізацыя, — 30. Зразумела, што жадаючых было значна больш. Дзень беларускага пісьменства перадусім свята літаратуры і літаратараў, і добра, што з кожным годам гэта становіцца ўсё больш відавочным. Сёлета за кошт спонсарскіх сродкаў мы змаглі падтрымаць невялікімі грашовымі прэміямі пажылых пісьменнікаў — каму 70 і больш гадоў. Дадалі яшчэ некалькі катэгорый, і атрымалася, што падтрымалі каля 120 чалавек. Добра, што змаглі таксама выдаткаваць пэўную суму грошай абласным і Мінскай гарадской арганізацыі для іх далейшага развіцця.

Як заўсёды, на свяце мяркуецца ўручыць узнагароды пераможцам конкурсу на лепшы твор года. За першыя месцы традыцыйна разам з грашовай прэміяй будуць уручацца статуэткі «Залаты Купідон», і гэта адбудзецца на галоўнай сцэне. Другія і трэція месцы адзначаюцца дыпломамі і прэміямі. Іх уручэнне адбудзецца падчас канцэрта. Для пісьменніка вельмі важна, што яго праца заўважаная. Дарэчы, сёлета было менш непаразуменняў пры падвядзенні вынікаў, менш скаргаў, быццам некага абышлі, што сведчыць пра высокі ўзровень самога конкурсу.

Добра, што з кожным годам узрастае значнасць свята, у тым ліку і дзякуючы літаратарам. Усе жадаючыя маюць магчымасць пазнаёміцца з пісьменнікамі і задаць ім пытанні, ды і гарады прыводзяцца ў парадак. Заўважце: усё больш жыхароў далучаецца да Дня беларускага пісьменства. Прыходзяць з дзецьмі — сем'ямі.

Цяпер больш дакладна вызначаецца праграма свята, да якога спрычыніліся Савет Міністраў (узначальвае аргкамітэт віцэ-прэм'ер Анатоль Тозік), міністэрствы інфармацыі, культуры, адукацыі. На ўрачыстасцях працуюць кніжныя крамы, свае вырабы прадстаўляюць майстры народнай творчасці, адчыненыя адмысловыя кавярні.

**— На вашую думку, які цяпер Быхаў літаратурны?**

— У яго ёсць свае традыцыі. Ідуць яны з глыбінь стагоддзяў — ад Лаўрэнція Зізанія і Мялеція Сматрыцкага, ад «Баркулабаўскага летапісу». З Быхаўшчыны літаратуразнаўца Міхась Мушынскі, пісьменнік Міхась Пазнякоў, у раённым друку калісьці пачыналі Наталля Голубева, Валянцін Барысевіч, Васіль Ткачоў, адтуль і шэраг маладых пісьменнікаў. Напэўна, было б вельмі правільна ўвесці яшчэ адну намінацыю, каб сталіца свята таксама мела свае ўзнагароды для творцаў і адзначала землякоў.

**— Пісьменніцкая арганізацыя з моманту заснавання на пэўных этапах вырашала розныя задачы. Спачатку — арганізацыйныя, пасля акрэслівалася праца па секцыях. Якія ж кірункі дзейнасці бачацца на будучае?**

— Працягваць развіваць літаратуру па ўсіх жанрах і кірунках: дзіцячую, дэтэктыўную, публіцыстыку, паэзію ды прозу… Але трэба шукаць і новыя формы працы. Да прыкладу, у інтэрнэце. Будзем ініцыіраваць перагляд заканадаўства па абароне аўтарскіх правоў. Тут, напэўна, з намі будуць салідарныя і мастакі, і музыканты. Асабліва ў галіне міжнароднага аўтарскага права. Без абароны аўтарскіх правоў немагчымае і развіццё электронных кніг. Гэта, акрамя іншага, і недапаступленне пэўных сродкаў у бюджэт! Ды і працаваць з пісьменнікамі таксама трэба. Адзін з важных кірункаў — развіццё літаратурнай крытыкі. Яна па-рознаму ўспрымаецца творцамі. Таму важна, каб існавала і крытыка, і самакрытыка. З іншага боку, важна, каб крытыка не была суб'ектыўнай, як часта здараецца ў інтэрнэце. Мы ўносім прапановы ва ўрад пра павелічэнне колькасці конкурсаў, каб у Беларусі існавалі конкурсы, да прыкладу, на ўзроўні ўрада, прапануем таксама заснаваць спаборніцтвы на прызы старшынь выканкамаў (акрамя таго, што існуюць ужо абласныя літаратурныя прэміі). З небюджэтных сродкаў мы плануем, і такое рашэнне ўжо прынялі, павялічыць колькасць конкурсаў па дзіцячай літаратуры. Трэба заахвочваць перш за ўсё беларускамоўных дзіцячых аўтараў!

**— А як асабіста ўспрымае свята пісьменнік Мікалай Чаргінец?**

— Мне прыемна, што мы можам падтрымаць калег: маральна і матэрыяльна. Таму ўсё ж найперш разглядаю свята як чыноўнік, адміністратар. Каб там пабываць змаглі ўсе, хто жадае, і ва ўсіх быў добры настрой. А пасля я заўсёды аналізую, што ўдалося, над чым яшчэ трэба працаваць, параўноўваю з папярэднімі гадамі. У Міністэрстве інфармацыі Беларусі абменьваемся думкамі, і там добра ставяцца да нашых пажаданняў: гэта вельмі важны кантакт з дзяржструктурай! Так што для мяне Дзень беларускага пісьменства — добрае працоўнае свята. А што да творчасці — дык толькі выйшаў сігнальны экзэмпляр кнігі «Аперацыя "Кроў"» (выдавецтва «Мастацкая літаратура»). Спадзяюся, чытачы змогуць убачыць яе і ў Быхаве.

**Ірына ТУЛУПАВА**

# Вандроўнікі: шлях з Благадатным Агнём

Калі стамляецца душа і ціснуць на плечы штодзённыя праблемы, калі няма паратунку ад душэўных і цялесных хвароб, калі прыкра ад кожнага неасцярожнага слова — час ісці. Час адкладваць звычныя справы дзеля душэўнага абавязку перад сабою і… людзьмі.

**Ірына ТУЛУПАВА, фота з архіва аўтара**

Раз на год пры канцы лета, калі яно гатовае сустрэць непазбежнага наступніка — восень, прыходзіць пара малітоўных вандровак па Беларусі, а з імі — гадзін міласэрнасці і шчырых размоў пра Вечнае: дабрыню і спагаду, пяшчоту і душэўную прыгажосць. Дні, азораныя шляхам да святыняў, таксама прымеркаваныя да Свята беларускага пісьменства. Навукова-асветніцкая экспедыцыя з Благадатным Агнём ад Гроба Гасподняга, у складзе якой — навукоўцы, пісьменнікі, артысты, музыканты, народныя майстры, праходзіць праз гарады і вёсачкі нашай Айчыны, і паўсюль гучыць адухаўлёнае, прыгожае, жывое беларускае Слова. За пяць дзён вандроўкі ўдзельнікі экспедыцыі становяцца духоўна блізкімі паміж сабою і… з усім незнаёмымі ім людзьмі, якія прыходзяць на сустрэчы ў бібліятэкі, школы, дамы культуры. Гавораць творцы пра нашыя традыцыі, пра асветнікаў, якія ратавалі Беларусь ад невуцтва, нагадваюць пра каштоўнасці, назапашаныя продкамі, і здабыткі, якімі абагачаецца наша зямля. Царква і свецкая культура (калі яна была культураю сапраўднай) рэдка размяжоўваліся ў падыходах да тлумачэння сутнасці Чалавека і мэты яго жыцця. І нават калі існавалі паасобку, усё ж сцвярджалі неабходнасць аб'яднання на падмурку маральных запаведзяў.

Манастыры — прытулкі для моцных духам людзей — станавіліся цэнтрамі распаўсюджвання ведаў. Тут ствараліся і перапісваліся першыя кнігі, тут адточвалі паэтычнае слова майстры прыгожага пісьменства, складаліся летапісы, перапісваліся — з тлумачэннямі — Евангеллі. Колькі іх знойдзена? І колькі факсімільных выданняў выйшла ў сучасны свет? Баркулабаўскі летапіс — помнік пісьмовай культуры. Сёлета пра яго таксама было і будзе шмат размоў. І прыпынак вандроўнікаў у Баркалабаўскім манастыры, напэўна ж, надасць ім моцы і натхнення для наступных сустрэч.



*Сустрэча на Святым полі.*

Сёлетні шлях навукова-асветніцкай экспедыцыі «Дарога да святыняў» праходзіць, як і заўжды, па старажытных і сучасных паселішчах, дзе размяшчаюцца намоленыя храмы. Пачалася вандроўка 28 жніўня ад Мінскага Свята-Духава кафедральнага сабора. Яна крочыць праз Святое поле каля вёскі Загор'е Сталавіцкага сельсавета Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці і вёску Сталавічы Баранавіцкага раёна, завітвае ў горад Стоўбцы Мінскай вобласці, пасёлак Міханавічы Мінскага раёна і гарадскі пасёлак Круглае Магілёўскай вобласці, ідзе праз горад Дрыбін Магілёўскай вобласці і вёску Расна Дрыбінскага раёна, горад Чавусы Магілёўскай вобласці. Благадатным Агнём будзе асвечана святая крыніца Захаранка каля вёскі Гамарня Быхаўскага раёна, пасля чаго вандроўнікі накіруюцца ў вёску Баркалабава і Баркалабаўскі Свята-Увазнясенскі жаночы манастыр. А завяршальная сустрэча — 1 верасня ў Быхаве, сталіцы дваццатага Свята беларускага пісьменства.

Пункты прыпынку экспедыцыі з года ў год мяняюцца, але ёсць і традыцыйныя тэрыторыі сустрэч. Абавязковае благаслаўленне ў шлях праходзіць у галоўным праваслаўным саборы Мінска, а Святое поле — гэта месца яўлення праслаўленай Сінодам Беларускай Праваслаўнай Царквы цудатворнай «Загор'е-Сталавіцкай» іконы Пакрова Прасвятой Багародзіцы — Адзігітрыі. Яна і ёсць Пуцяводная для экспедыцыі.

Кіраўнік экспедыцыі «Дарога да святыняў» з Благадатным Агнём ад Гроба Гасподняга — пісьменніца Ніна Загорская. Захавальнікі Агню — протаіерэй Свята-Духава кафедральнага сабора Сергій Гардун і іерэй храма іконы Божай Маці «Усецарыца» (г. Мінск) Дзімітрый Ворса. У мясцінах, дзе прайшла экспедыцыя, высаджваюцца Сады малітваў — як сімвалы супольнай малітвы за Беларусь.

## За падзеяй

# Сур'ёзныя пытанні «малой» літаратуры

Падчас XV Міжнароднага з'езда славістаў у Мінску адбыўся «круглы стол» «Беларуская літаратура як мадэль развіцця «малых» (славянскіх) літаратур». Мадэратарамі выступілі прафесар Гун-Брыт Колер (Германія) і беларускі навуковец Павел Навуменка. Яны прадставілі сумесны даклад, прысвечаны аўтанамізацыі ў «малых» літаратурах — на матэрыяле беларускай літаратуры першай трэці XX стагоддзя. Гэты ж даклад, дарэчы, чытаўся раней, у 2011 годзе, на канферэнцыі ў Ольдэнбургскім універсітэце, так што беларускія калегі мелі магчымасць пазнаёміцца з удасканаленым варыянтам.



*Выступае Гун-Брыт Колер.*

Прафесар Колер вылучыла восем крытэрыяў так званай «маласці» літаратур, адзначыўшы папярэдне, што яны не з'яўляюцца ні неабходнымі, ні дастатковымі. «Маласць» вызначаецца па велічыні тэрыторыі дзяржавы, пра літаратуру якой ідзе размова; па ўзроўсе літаратуры; па лакалізацыі (маецца на ўвазе аддаленасць ад «літаратурнага мерыдыяна», то бок, восі найбольш буйных літаратурных цэнтраў); па колькасці (носьбітаў мовы, аўтараў, чытачоў, насельніцтва); па арганізацыйным патэнцыяле і развітасці кніжнага рынку; па тым, наколькі вядомая літаратура ў свеце і наколькі прызнаная міжнароднай супольнасцю; па самаўспрыняцці і, нарэшце, наяўнасці ў дзяржаве сітуацыі бі/полілінгвізму.

Сітуацыю білінгвізму ў літаратуры Беларусі і ранейшых дзяржаўных утварэнняў на яе тэрыторыі дакладна вымалёўваў вядомы беларускі літаратуразнаўца і драматург Сяргей Кавалёў, які прадстаўляў Польшчу (Люблін). Навуковец узняў пытанне: што лічыць беларускай літаратурай? Сяргей Валер'евіч размяжоўвае гэтае паняцце і блізкае яму — «літаратура Беларусі». Таксама ў яго дакладзе «Полілінгвізм як асаблівасць «малых» літаратур» разглядаліся пытанні польскамоўнай беларускай літаратуры, шматмоўя ў Вялікім Княстве Літоўскім, прытым XVI стагоддзе Сяргей Кавалёў называе «залатым» стагоддзем шматмоўнай пісьменнасці. Беларуская мова на той час была афіцыйнай дзяржаўнай мовай. Усё справаводства вялося па-беларуску, па-беларуску пісаліся летапісы, хронікі, законы; выдаваліся кнігі і пераклады, у тым ліку — Біблія. Развіваліся і іншыя мовы — лацінская, царкоўнаславянская, польская. Такі полілінгвізм не зашкодзіў роднай мове карэннага насельніцтва, у адрозненне ад пазнейшых эпох паланізацыі і русіфікацыі.

Вядомы славіст Іван Чарота, які выступаў у якасці апанента, не пагадзіўся з думкай Сяргея Кавалёва. «Чаму ж не назваць «залатым векам» тое ж XIX стагоддзе, калі на Беларусі актыўна ўжывалася польская мова?» Таксама Іван Аляксеевіч выступіў супраць самога азначэння «малая» літаратура. На яго думку, лепей было б казаць «меншая». Зрэшты, у выступе навукоўца адчуваўся скепсіс датычна любых тэрмінаў. Напрыклад, у адказ на «тэорыю поля» Бурдзье Іван Чарота прапанаваў скласці тэорыі лесу, саду і балота. Другім апанентам быў італьянскі прафесар Гардзаніці Марчэла.

Акрамя дакладаў Гун-Брыт Колер, Паўла Навуменкі і Сяргея Кавалёва, былі зачытаны даклад Міколы Хаўстовіча (Польшча) «Станаўленне беларускага літаратурнага поля ў XIX стагоддзі як працэс "эмансіпацыі"». З усімі працамі можна азнаёміцца ў адпаведным зборніку матэрыялаў.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Віншуем пераможцаў!

Па традыцыі ў Дзень беларускага пісьменства ўручаюцца ўзнагароды конкурсу «Лепшы твор года». Пераможцаў па выніках 2012 года сустрэне святочны Быхаў.

У галіне **паэзіі** Дыплом І ступені атрымае Васіль Макарэвіч за кнігу «Неба ў руках», Дыплом ІІ ступені — Анатоль Шушко за кнігу «Шаны», Дыплом ІІІ ступені — Аліна Легастаева (кніга «Калі-небудзь»), Дыплом лаўрэата — Ала Нікіпорчык за кнігу «Гукам адзіным».

У галіне **прозы** Дыплом ІІ ступені прысуджаны Дзмітрыю Пятровічу за кнігу «Белая жанчына», Дыплом ІІІ ступені — Аляксандру Макоўскаму за кнігу «Ціхае жыццё», Дыплом лаўрэата — Васілю Рудому за творы, змешчаныя ў зборніку сучаснай беларускай прозы «Трыпціх кахання».

У галіне **дзіцячай літаратуры** Дыплом І ступені будзе ўручаны Яўгену Хвалею за кнігу «Прынцэса тусоўкі», Дыплом ІІ ступені — Кацярыне Хадасевіч-Лісавой за кнігу «Касмічная адысея хлопчыка Стасіка», Дыплом ІІІ ступені — Вользе Нікольскай за кнігу «Мы — агенты "Калбафір"».

У галіне **літаратурнай крытыкі і літаратуразнаўства** Дыплом І ступені атрымае Іван Саверчанка за кнігу «Паэтыка і семіётыка публіцыстычнай літаратуры Беларусі XVI — XVII стагоддзяў».

Сярод **публіцыстаў** Дыпломам І ступені адзначаны Мікола Мікуліч за кнігу «Максім Танк. Талент, заручаны з небам».

У галіне **драматургіі** Дыплом І ступені прысуджаны Андрэю Карэліну за п'есы «Лафантэн, або Белая кашуля з чорным каўнярам», «Вертайлер», «Неба паспее», пастаўленыя ў тэатрах Беларусі і Расіі, кінасцэнарый «Выпадковыя знаёмыя», экранізаваны ў 2012 годзе.

Дыплом І ступені ў галіне **краязнаўчай літаратуры** атрымае Мікалай Барысенка за кнігу «Зямля Магілёўская», Дыплом лаўрэата ў галіне краязнаўства ўручаць Антону Параскевічу (Віктару Улюценку) за кнігу «У краі каменных волатаў».

Дыплом І ступені ў галіне **гумару і сатыры** прысуджаны Барысу Кавалерчыку за кнігу «Гульня слоў. Кніга гумару і афарызмаў»; у галіне **песеннага жанру** — Таццяне Атрошанка за напісанне слоў, музыкі і выкананне ўласных песень цыкла «Унутры вялізнага горада».

Дыпломам лаўрэата ў галіне **перакладу** адзначана Ірына Качаткова за пераклад на беларускую мову кнігі Ато Хамдама і Леаніда Чыгрына «Подзвіг Эмамалі Рахмона».

**Пра кнігі пераможцаў чытайце на стар. 4 ▶**

**Рыта СТАХ**

## Абрысы

Цэнтральны дзіцячы парк імя М. Горкага абраны месцам правядзення традыцыйнага свята для моладзі г. Мінска «Песняй вітаю я вас!», прымеркаванага да Дня ведаў. Яно адбудзецца заўтра, 31 жніўня а 12-й гадзіне. Арганізатар імпрэзы — Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа — запрасіў да ўдзелу пісьменнікаў Міхася Пазнякова, Уладзіміра Мазго, Уладзіміра Скарынкіна, Дзмітрыя Дземідовіча, а таксама маладых літаратараў: Віктара Жыбуля і Людмілу Клачко. З прывітальным словам выступіць Міхась Міцкевіч. Аздобяць імпрэзу музычныя нумары маладой паэтэсы і барда Ганны Чумаковай.

Выстаўка «Праваслаўны свет. Вобраз Хрыста ў іканаграфіі краін Усходняй Еўропы» адкрыецца 17 верасня ў Нацыянальным мастацкім музеі. На выстаўцы, прысвечанай святкаванню ў Беларусі 1025-годдзя Хрышчэння Русі, будуць дэманстравацца больш як 90 унікальных твораў іканапісу XV — пачатку XIX стст. з фондаў вядучых музеяў Беларусі, Расіі, Украіны і Сербіі. У прыватнасці, са збору Музея рускай іконы (Масква), Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі, Нацыянальнага Кіева-Пячэрскага музея-запаведніка, з Нацыянальнага музея ў Бялградзе (Сербія). На выстаўцы можна будзе ўбачыць творы іканапісу з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, Музея старажытнабеларускай культуры Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук і інш.

Міжнародны музычны фестываль «Залаты шлягер» пройдзе ў Магілёве 9 — 13 кастрычніка. Плануецца, што ў абласны цэнтр прыедуць папулярныя выканаўцы і калектывы з 11 краін: Беларусі, Расіі, Ізраіля, Эстоніі, Кубы, Грузіі, Германіі, Латвіі, Узбекістана, Малдовы, ЗША. Канцэрты маштабнага свята адбудуцца ў Лядовым палацы і Палацы культуры вобласці. Папярэднічаць «Залатому шлягеру» 8 кастрычніка будзе рэтра-канцэрт «Музычны залаты дождж». Добры настрой жыхарам і гасцям горада на Дняпры падораць вядомыя выканаўцы, дзіцячыя калектывы Магілёўшчыны. У іх ліку Павел Усовіч, Алена Мацярынка, вакальная група «Беатрыс», ансамбль эстраднага танца «Тэт-А-Тэт». Стартуе міжнародны фестываль канцэртам зорак сусветнага і беларускага джаза.

Калектыў супрацоўнікаў РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» глыбока смуткуе з прычыны смерці народнага мастака Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, Заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Арлена Міхайлавіча КАШКУРЭВІЧА і выказвае шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

Калектыў супрацоўнікаў РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» выказвае шчырыя спачуванні вядучаму мастацкаму рэдактару аддзела мастацкага рэдагавання РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» Калініну Віктару Пятровічу ў сувязі са смерцю МАЦІ.

# Лепшыя кнігі года

## Падарожжа праз эпохі

Не будзе перабольшваннем сказаць, што сапраўдная вядомасць прыйшла да Івана Саверчанкі на пачатку 1990-х гадоў. Тады ў маладога супрацоўніка Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі выйшла адразу некалькі навукова-папулярных выданняў: «Астафій Валовіч», «Канцлер Вялікага Княства», прысвечанае Льву Сапегу, «Сымон Будны — гуманіст і рэфарматар», «Апостал яднання і веры» (пра Язэпа Руцкага). Але пакрысе даследчык стаў надаваць усё большую ўвагу акадэмічнай навуцы. Ён абараніў доктарскую дысертацыю па філалогіі, з'яўляецца аўтарам больш як 250 публікацый, сярод якіх 7 манаграфій. Апошняй з іх стала «Паэтыка і семіётыка публіцыстычнай літаратуры Беларусі XVI — XVII стагоддзяў».




Аўтар 463-старонкавага фаліянта пераносіць чытачоў у часы Рэнесансу і Барока, якія з'яўляліся апагеем у развіцці даўняй беларускай культуры і літаратуры. Менавіта тады на авансцэну нацыянальнага прыгожага пісьменства выйшлі Францыск Скарына, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Іпацій Пацей, Мялецій Сматрыцкі і іншыя інтэлектуалы свайго часу, якія працавалі ў розных ідэйна-эстэтычных напрамках і пісалі на царкоўнаславянскай, старабеларускай, польскай і лацінскай мовах. Як тлумачыць аўтар у прадмове, «нацыянальнай літаратуры XVI — XVII стст. былі ўласцівы сінкрэтызм, энцыклапедычнасць і анталагізм. Пісьменнікі імкнуліся адказаць літаральна на ўсе пытанні быцця, задаволіць духоўныя і пазнавальныя патрэбы сучаснікаў». У сваім даследаванні І. Саверчанка раскрывае мастацка-эстэтычныя каштоўнасці шэдэўраў таго часу.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

## Шчаўкунок на новы лад

Так можна было б назваць напісаны Андрэем Карэліным сцэнарый, паводле якога быў зняты фільм «Выпадковыя знаёмыя» (рэжысёры Вера Глаголева і Аляксандр Франскевіч-Лайе). Галоўныя героі, прынамсі, цудоўна ўпісваюцца ў класічныя гофманаўскія вобразы.



Знаёмцеся — Аляксандр. Пасняховы, самаўпэўнены бізнесовец, які, здавалася б, здольны знайсці выгаду для сябе ў любым становішчы і мараль якога непасрэдна залежыць ад колькасці грошай, якія яму прапануюцца. Канечне, ён няблага выглядае і любіць сябе. Эгаістычны Шчаўкунок.

Але заўважце — у апісанні Аляксандра прамільгнула слова «здавалася б». Для таго, каб ператварыць чэрствага драўлянага чалавечка ў прыўкраснага прынца, з'яўляецца мілая дзяўчына Вера, якая інтуітыўна распазнае тое самае «здавалася б». Зрэшты, да моманту распазнання і казачнага ператварэння адносіны паміж героямі не тое каб прыемныя.

З ласкі Аляксандра санаторый для ветэранаў пойдзе пад знос. На месцы яго мусяць з'явіцца дарагія катэджы. Вера ж стаіць гарой за санаторый (дзе і працуе). Буйным кветам між мужчынам і жанчынай квітнее нянавісць. Але ж ад нянавісці да любові… Самі ведаеце.

Але самае галоўнае, што дзея адбываецца напярэдадні Новага года (зноўтакі гофманаўскія матывы). Навагодні антураж — агеньчыкі, ёлкі, музыка, святочная мітусня, белы снег — міжволі нараджае веру ў тое, што цуд адбудзецца. І нездарма, напэўна, Андрэй Карэлін называе галоўную гераіню гэтым іменем — Вера. Як нездарма адваката-шчаўкунка клічуць Аляксандрам — нібы ў знак перамогі: над злом, над нявер'ем, над самім сабою. Займанальна яшчэ і тое, што імёны галоўных герояў дублююць імёны рэжысёраў.

**Уладзімір ГОРЫНЬ**

## Гульні ў гумарыстычнай прасторы




Уладальнікам «Залатога Купідона — 2012» у намінацыі «сатыра і гумар» стаў гомельскі пісьменнік Барыс Кавалерчык з кнігай «Гульня слоў».

Кніга складаецца з дзвюх частак: афарызмы і тэксты самых розных гумарыстычных жанраў. Афарызмы невыпадкова займаюць асобны раздзел. Дакладна, гэта сапраўдная гумарыстычная энцыклапедыя нашага жыцця, маральная і сацыялагічная. Мяркуйце самі, чаго тут няма, калі асобна прадстаўлены афарызмы па раздзелах «Грамадства», «Здароўе», «Шчасце», «Цяжкасці», «Сумленне», «Кар'ера», «Эканоміка і бізнес», «Калектыў», «Густ і мода», «Ежа і пітво», «Дыета», «Мужчына і жанчына» — толькі асноўныя падборкі жартаўліва-мудрых выказванняў. Пра грунтоўнасць іх «класіфікацыі» сведчыць і тое, што аўтар падзяляе нават падобныя, здавалася б, рэчы: прыкладам, асобна пададзеныя «Каханне» і «Шлюб».

Наколькі разнастайнай можа быць афарызацыя, сведчаць выказванні з аднаго толькі раздзела — «Жыццё». Па ім бачна, што часцей за ўсё афарызм «харчуецца» ўстойлівымі словазлучэннямі («Калі жыццё не складваецца, трэба памнажаць высілкі») або парадоксамі («Нічога так не пазбаўляе жыцця каштоўнасці, як жаданне разбагацець»). Афарызм можа быць «замешаны» і на чорным гумары: «Калі жыццё адыходзіць, яно бразгае не дзвярыма, але вечкам труны». А прыглядзьцеся да наступнага досціпу: «Чым цяжэйшае жыццё, тым лягчэй марыць» — тут зафіксаваная сапраўдная філасофская мудрасць.

Другую частку склалі жартаўлівыя мініяцюры і анекдоты, гумарыстычныя чатырохрадкоўі, пацешныя гісторыі, «Літаратурныя кульбіты», смешныя «Пытаннечкі», «Бесталковы слоўнік»… — цэлы россып сатыры і гумару.

**Лея ХАШЫМБА**

## Сусвет душы

Уладальніцай «Залатога Купідона» ў песенным жанры стала спявачка, паэтэса, кампазітар Таццяна Атрошанка. Журы ўразіў багаты спектр талентаў маладой дзяўчыны, якая мае ўсе падставы заняць месца на беларускім музычным Алімпе побач з такімі зоркамі, як Ірына Дарафеева, Іна Афанасьева, Паліна Смолава.




Адзінаццаць песень дыска з назвай «Унутры вялізнага горада» стварaліся спявачкай-бардам на працягу сямі гадоў, таму, натуральна, сюды ўвайшлі самыя разнастайныя паводле характару і жанравай прыналежнасці творы. Папулярная і класічная эстрадная песня, фольк, лаціна, поп-рок — сапраўдная скарбонка творчых набыткаў. Гэта песні пра сябе, пра людзей побач, а перадусім — пра каханне. Адсюль — розная танальнасць: светлы сум, трывога, развага і ўзнёсласць.

Падчас прэзентацыі дыска Таццяна Атрошанка запрашала слухачоў у сусвет яе песень, як у сусвет сваёй душы, які магчыма параўнаць з сусветам вялікага горада. Гэта аналогія з часоў рускага Сярэбранага стагоддзя стала класічнай, яе любілі выкарыстоўваць таксама еўрапейскія і амерыканскія паэты-мадэрністы. Горад змяшчае ўсё, імкнецца жыць, ён увесь час у руху і разам з тым уяўляе сабой цэльнасць, мае ўласны характар. Такая ж цэльная гармонія — адметнасць песеннай творчасці маладой лаўрэаткі.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

## Колер мастака

Васіль Макарэвіч, якога я раней не чытала, апынуўся яркім, самабытным творцам, чые вершы, як ён сам пісаў, часам нагадваюць выбухі. І калі паэт меў на ўвазе, магчыма, недасканаласць, залішнюю рэзкасць, я ўкладваю ў такое параўнанне іншы сэнс: балючасць слоў, агаленасць нерваў, запамінальнасць.

Васіль Сцяпанавіч належыць да «філалагічнага пакалення»: нарадзіўся ў 1939 годзе, у 1964-м скончыў журфак БДУ. Аднак да таго, яшчэ падлеткам, зведаў сапраўды цяжкую працу, якая нам, спешчанай сучаснай моладзі, і не снілася. І гэта адбіваецца на тэматыцы вершаў: лесапільні, заводы, качагарні — іх поўна ў кнізе «Неба ў руках». І хоць напачатку з'яўляецца пэўны скепсіс, маўляў, зноў песні «ўдарнікаў працы», колькі ж можна, — ад яго не застаецца і следу, калі чытаеш пра тое, як «завіруха кружыць белыя верацёны», «маланкі мокры дол дзяўбуць» і «навярнулася буйная слязой у воку нябёс навальніца». І саму работу — менавіта работу — Васіль Макарэвіч апісвае непаўторна, яна то цягучая, то звонкая. Здаецца, што гэтую песню чалавека, які вымушаны хлеб свой здабываць у поце твару, паэт высякае ў чорным граніце.




Нездарма кажу «чорным». Чорны — колер Васіля Макарэвіча (чытайце верш «Колер мастака»). Паслухайце: «Чорная рэчка. Чорны дом. / Чорныя дымныя ліўні…» Тут увогуле праглядвае і купалаўскі дэманізм, і адначасова — вытанчанасць акмеістаў. А вось ад наступных радкоў: «Аб цемру, як аб антрацыт, цярухся смуглаю шчакою» — увогуле перахоплівае дыханне.

Кніга «Неба ў руках» поўная той самай магутнасці, з якой і расце сапраўдная паэзія.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

## Вернасць паэзіі




Бадай, не кожнаму з айчынных пісьменнікаў пашчасціла з даследчыкам, які большую частку свайго жыцця вывучае менавіта яго біяграфію і творчасць. А вось асобай Максіма Танка і пленам яго дзейнасці ўжо многія гады займаецца Мікола Мікуліч. Калі ён паступіў у аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі, атрымаў тэму «Максім Танк і сучасная беларуская паэзія». А потым пазнаёміўся з самім творцам. Гэта былі апошнія гады жыцця класіка, але даследчык паспеў багата даведацца пра падрабязнасці яго біяграфіі. З таго часу пошукі ішлі ў двух напрамках: аналіз творчасці і ўдакладненне невядомых акалічнасцей лёсу класіка. На працягу 1990-х і 2000-х гадоў у даследчыка выходзілі кнігі і брашуры «Максім Танк і сучасная беларуская лірыка», «Максім Танк: на скразняках стагоддзя», «Паэзія і рэчаіснасць у свеце Максіма Танка». Своеасаблівым падагульненнем пошукаў стала даследаванне «Максім Танк. Талент заручаны з небам».

У розных частках кнігі падрабязна прадстаўлены аналіз творчасці паэта, праблемы яго перакладаў на рускую мову. Але найбольшую цікавасць у шырокага чытача выклічуць два раздзелы. У першым, «Сэрца насцеж, або Мовaю дакументаў і фактаў», надзвычай багата цытуюцца лісты да М. Танка дзеячаў культуры і мастацтва, што дадае новыя штрыхі да іх біяграфій. А вось другі, «З паэтам tête-à-tête», уяўляе сабой дыялогі даследчыка з творцам. Несумненна, любы чытач, які цікавіцца творчасцю народнага паэта Беларусі, не зможа абмінуць кнігі М. Мікуліча.

**Даніла АРЦІМОВІЧ**

## Запрашаем на Магілёўшчыну




Пераможцам у намінацыі «краязнаўчая літаратура» стала кніга «Зямля Магілёўская», што пабачыла свет у Магілёўскай абласной друкарні імя Спірыдона Собаля пад рэдакцыяй Мікалая Барысенкі. Гэта кніга прадстаўнічага класа, дзе змяшчаюцца звесткі пра асноўныя этапы станаўлення Прыдняпроўскага краю, яго сацыяльна-эканамічнае і культурнае развіццё. Выданне адметнае тым, што на яго старонках, апроч багатых звестак, што падаюцца ў тэкставай форме, прадстаўлены шматлікія фотаздымкі і ілюстрацыі. Кніга стане добрым падарункам не толькі беларусам, але і гасцям краіны, бо яе тэкст перакладзены на англійскую мову і падаецца паралельна з рускім.

Значную ролю ва ўспрыманні гістарычных і краязнаўчых выданняў шырокай публікай адыгрывае асоба аўтара. У выпадку з кнігай «Зямля Магілёўская» выдаўцам не трэба было хвалявацца з гэтай нагоды. Мікалай Барысенка — вядомы ў горадзе экскурсавод, аматар мінуўшчыны, шчыра адданы справе вывучэння гісторыі краю.

Што да структуры і зместу кнігі «Зямля Магілёўская», то яна ўключае шэсць раздзелаў, прысвечаных гісторыі і сучаснасці краю. Так, выданне распавядае пра індустрыю і сельскагаспадарчую вытворчасць рэгіёна, гісторыю магілёўскіх земляў у Сярэдневеччы, а таксама пра час, калі гэтыя землі знаходзіліся пад уладай Расійскай імперыі. Звяртае аўтар увагу на развіццё Магілёўскага Падняпроўя ў савецкі час, а таксама робіць акцэнт на прыродных багаццях краю, адметнасцях развіцця сельскай гаспадаркі Магілёўшчыны.

**Чэслава ПАЛУЯН**

## Прынцэса і пацукі




У 1991 годзе ў выдавецтве «Юнацтва» пабачыла свет аповесць Яўгена Хвалея з назвай «Пацукі». Звычайная сталічная школа, звычайныя вучні са сваімі праблемамі, асаблівасцямі ўзаемаадносінаў. У гэтай школе адбываецца надзвычайнае здарэнне — страшная смерць вучаніцы — дзевяцікласніцы Веранікі Рагозінай, выдатніцы. Напісаўшы аповесць, аўтар пажадаў і далей прасачыць лёс галоўных герояў. Так выйшлі яшчэ два творы «Гадзюка, якая ж ты гадзюка» і «Узвіжанне, або Вяртанне да сябе». Гэтыя тры аповесці лагічна аб'ядналіся ў адну кнігу — раман «Прынцэса тусоўкі».

Кніга ўскалыхнула грамадскую думку, звярнуўшы ўвагу на пытанні сучаснай моладзі, узаемаадносінаў бацькоў і дзяцей, кахання падлеткаў. Таму нядзіўна, што раман не толькі стаўся свайго кшталту бестселерам, але і быў уключаны ў школьную праграму па беларускай літаратуры для пазакласнага чытання ў старэйшых класах. Твор стаў і надзвычай наватарскім для свайго часу.

Цалкам натуральна, што перапрацаваная (так бы мовіць, рэжысёрская) версія рамана, што пабачыла свет у 2012 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», стала прызавой для яе аўтара. Так, у Быхаве Яўген Хвалей атрымае «Залатога Купідона» за лепшы твор для дзяцей. Адметна, што ў гэтае выданне ўвайшла таксама аповесць «Анжэла з Былькаў», якая звяртае ўвагу на тэму абітурыентаў 1990-х.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Анталогія дружбы

У Выдавецкім доме «Звязда» завяршаецца работа над серыяй кніг «Сугучча сэрцаў», прысвечаных літаратурам Беларусі і краін Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

**Максім БЕКРАВІНСКІ**

Яшчэ, здаецца, нядаўна выйшаў у свет томік твораў пісьменнікаў Беларусі і Расіі «С думой о Родине», а вось ужо на пальцы стаяць шэсць кніг серыі. Астатнія — альбо знаходзяцца ў друкарні альбо вось-вось павінна завяршыцца над імі работа вярстальшчыкаў, карэктараў. Колькі слоў пра сам праект, аўтарам ідэі і кіраўніком якога з'яўляецца Лілія Станіславаўна Ананіч. Укладальнік усіх тамоў — Алесь Бадак. Прадмовы да кожнай з кніг напісаў Алесь Карлюкевіч. Мэта серыі — пазнаёміць чытача з лепшымі творамі, якія былі напісаны ў асноўным у постсавецкі час паэтамі і празаікамі краін, што ўваходзяць у Садружнасць Незалежных Дзяржаў. Кожная з кніг складзена наступным чынам. Першая частка — літаратура адной з краін. Напрыклад, Расіі альбо Азербайджана ці Арменіі. Другая частка ва ўсіх зборніках — вершы, апавяданні, урыўкі з буйных празаічных твораў беларускіх аўтараў. Наўмысна выдадзеная на рускай мове, серыя ставіць перад сабой і наступную задачу: спрыяць дыялогу саміх літаратараў, даць ім падказкі для знаёмства з нацыянальнымі літаратурамі.

У Выдавецкага дома «Звязда» (а раней — у РВУ «Літаратура і Мастацтва») назбіраўся пэўны вопыт міжнародных стасункаў у галіне мастацкай літаратуры. Ужо сем гадоў запар у Мінску і іншых гарадах краіны ў пярэдадзень Дня беларускага пісьменства праводзіцца міжнародны «круглы стол» з удзелам замежных пісьменнікаў. У часопісе «Нёман» друкуюцца творы не толькі айчынных аўтараў, але і паэзія, проза, публіцыстыка пісьменнікаў з розных куткоў СНД, постсавецкай прасторы. З выдавецтвам, газетай «Літаратура і мастацтва», часопісамі «Нёман», «Полымя» і «Маладосць» шмат кантактуе літаратараў далёкага і блізкага замежжа. Як вынік — і цікавыя перакладныя публікацыі, што прадстаўляюць шырокую мастацкую палітру. Як вынік — плённая праца перакладчыкаў. Як на рускую, так і на беларускую мовы. Перакладчыкаў, між іншым, не толькі з Мінска, Беларусі, але і з Масквы, Санкт-Пецярбурга, з краін СНД. У выніку вырашаецца задача і па стварэнні пэўнай пляцоўкі перакладчыцкага майстэрства. Магчыма, з часам гэтая работа стане асновай для з'яўлення перакладнога альманаха… Выдаваліся ж некалі ў Мінску «Далягляды», «Братэрства», «Ветразь», выходзілі ж выдавецкія серыі, якія актыўна прадстаўлялі літаратуру савецкіх рэспублік і замежных краін… Работа над серыйнымі выданнямі, як і работа над штогоднікамі, абавязвала да сістэмнасці, спрыяла ўдзелу пісьменнікаў у перакладчыцкай працы, у дзейнасці па прадстаўленні іншаземных аўтараў найперш на беларускай мове. Знаходзіліся і мінскія перакладчыкі на рускую мову для «Нёмана», для асобных выданняў. Яркі прыклад — сугучны пераклад Г. Маркеса, зроблены К. Шэрманам і В. Тарасам. Што ўжо казаць пра тое, што знаходзілася шмат перакладчыкаў беларускіх аўтараў на рускую мову.

…Дарэчы, рускую літаратуру ў «Сугуччы сэрцаў» прадстаўляюць дзве кнігі. У згаданай — «С думой о Родине» — творы пісьменнікаў, якія прэзентуюць рускую літаратуру. У прыватнасці, вершы і проза Валянціна Распуціна, Уладзіміра Кастрова, Юрыя Бондарава, Канстанціна Ваншэнкіна, Уладзіміра Крупіна, Мікалая Дабранравава, Віктара Ліханосава, Глеба Гарбоўскага, Яўгена Шышкіна, Станіслава Куняева. У другім томіку — «Звёздный роднік» — літаратура народаў Расіі: творы Расула Гамзатава, Ханбічэ Хаметавай, Салімат Курбанавай, Мустая Карыма, Рэната Харыса, Лулы Куні, Магамед-Саіда Пліева, Вячаслава Абукаева-Эмгака, Альберта Уздэнава, Арсена Дадуева, Вячаслава Ар-Сяргі, Дзібаша Каінчына, Батрутдзіна Магамедава, Ахсара Кадзаці, Маадыра-Оола Хавалыга, Валеры Тургая, Інгі Арценевай, Рымы Хонінавай. Адпаведна, яны — адлюстраванне аварскай, лязгінскай, лакскай, татарскай, чачэнскай, інгушскай, марыйскай, карачаеўскай, балкарскай, алтайскай, удмурцкай, асецінскай, даргінскай, чувашскай, тувінскай, нянецкай, калмыцкай літаратур. Так, не ўся палітра літаратур народаў Расіі. І тым не меней досыць уражлівы склад. Не так часта ў самой Расіі выходзяць зборнікі кшталту кнігі «Звёздный роднік». І ад такой кнігі, дзякуючы мастацкім вобразам і сімвалам, вынайдзеным нацыянальнымі пісьменнікамі, уяўленне пра Расію, жыццё ў яе розных кутках падаецца больш поўным. Свет, пабудаваны (згадаю пісьменнікаў і ранейшых пакаленняў) Юрыем Рытхэу, Атнерам Хузангаем, Міхаілам Хонінавым, Міхаілам Ляміным, Уладзімірам Сангі, Кайсынам Куліевым, Акцябрынай Воранавай, выглядае нашмат шырэйшым за свет, які мы ўяўляем у адлюстраванні вялікай рускай літаратуры, створанай выключна Уладзімірам Салаухіным, Юрыем Бондаравым, Васілём Бяловым, Рыгорам Бакланавым, Бэлай Ахмадулінай, Сямёнам Ліпкіным, Арсенам Таркоўскім, Булатам Акуджавам, Юнай Морыц, Валерыем Казаковым, Алесем Кажадубам… Нацыянальныя сімвалы заўжды ў большай ступені правакуюць сувязь чытача з трывогамі, выклікамі часу, прымушаюць да сур'ёзных развваг. Як, прыкладам, гэты верш асеціна Ахсара Кадзаці:

*Язык немеет, мысль оцепенела,*
*Лишь Смерть как будто*
*выкосила склон…*
*Где наша поросль!..*
*Горю нет предела,*
*Но горних духов*
*беспробуден сон.*

*Мысль и язык,*
*вы больше не нужны,*
*Мы — камни,*
*не Адамовы сыны.*
*О, Господи,*
*прими в свое жилище*
*И дай приют*
*душе немой и нищей!*

Мне цяпер думаецца і пра тое, што ўкладанне, збіранне кніг падобнага кшталту — гэта праца і дзеля таго, каб заўтра на выбраныя тэксты, на выбраных аўтараў, ды ўвогуле на нацыянальныя літаратуры звярнулі ўвагу і перакладчыкі на беларускую мову. Пэўныя падыходы ў гэтым кірунку існуюць і сёння. Адгорнем азербайджанскі зборнік — «Счастливая встреча». У ім прадстаўлены сучасныя пісьменнікі — Анар, Чынгіз Аліаглу, Націг Расулзадэ, Фікрэт Гаджа, Эльчын Гусейнбейлі, Гашам Наджафзадэ, Афаг Масуд, Эльхан зал Караханлы, Гюнель Анаргазы, Салім Бабулаглу, Каміль Афсараглы, Гулу Агсес… Фактычна раней творы абсалютнай большасці з іх былі невядомыя беларускаму чытачу. А вось Чынгіза Аліаглу, якога ўвогуле актыўна перакладаюць ва ўсім свеце, нашы паэты і да выдання кнігі «Счастливая встреча» пераклалі яшчэ і на беларускую мову. Публікацыі былі ў часопісе «Полымя», газеце «Літаратура і мастацтва». Перакладчыкі — Мікола Мятліцкі, Таццяна Сівец, Алесь Бадак. Тым самым Чынгіз Аліаглу ўваходзіць у кантэкст і беларускага мастацкага свету. Дарэчы, на адной з кніжных выстаў у Мінску адбылася і прэзентацыя кнігі вершаў азербайджанскага паэта — «Рамка». А сам Чынгіз добра ведае беларускую літаратуру. Ён пераклаў на азербайджанскую мову адно з апавяданняў Анатоля Кудраўца. Цяпер укладае зборнік беларускай паэзіі на азербайджанскай… Ведаю, што працуе паэт і над паэтычным увасабленнем беларускай тэмы. Але пра гэта — іншым разам. Па завяршэнні працы…



Фота Кастуся Дробава

І казахстанскі том серыі «Сугучча сэрцаў» — сустрэча з сябрамі беларускай літаратуры. Поруч з паэтамі і празаікамі, якія пішуць па-казахску, — вершы Любові Шашковай. Яна — наша зямлячка, ураджэнка гомельска-магілёўскага памежжа. Часты госць у Беларусі. Аўтар паэмы пра Рагнеду, вялікага цыкла вершаў пра Беларусь партызанскую. Цяпер працуе ў часопісе «Простор», які выходзіць у Алма-Аце. Неадночы на старонках гэтага аўтарытэтнага яшчэ з часоў Савецкага Саюза літаратурна-мастацкага выдання друкаваліся беларускія пісьменнікі. У апошнія гады — Мікола Мятліцкі, Міхась Пазнякоў, Алесь Бадак, Леанід Левановіч і іншыя. Любоў Шашкова — перакладчыца беларускай паэзіі на рускую мову.

Надрукаваны ў кнізе «Не ведая границ» і вершы Валерыя Міхайлава. Ён прыязджаў у Беларусь, мае добрыя стасункі з айчынным прыгожым пісьменствам. Адкрывае казахстанскую частку кнігі ўрывак са славутага рамана Мухтара Ауэзава «Шлях Абая». Здавалася б, гэты твор і гэты пісьменнік ніяк не ўпісваюцца ў канцэпцыю серыі, якая прадстаўляе постсавецкія нацыянальныя літаратуры… Але так зроблена наўмысна. Урывак падаецца з новага перакладу, выкананага зусім нядаўна Анатолем Кімам. Між іншым, чатырохтомнік «Шлях Абая» ў новым выданні быў прэзентаваны і ў Мінску. У Саюзе пісьменнікаў Беларусі. Прыязджаў і перакладчык — Анатоль Кім. Госцем Беларусі тады быў і сын Мухтара Ауэзава — вучоны-літаратуразнаўца, дыпламат, культуролаг, шматгадовы амбасадар Казахстана ў Кітаі Мурад Ауэзаў.

Падзеяй мне асабіста падаецца кніга, якая прадстаўляе ўкраінскую літаратуру, — «Золотая струна». Поруч з маладымі аўтарамі, яшчэ не вельмі добра знаёмымі ці зусім не вядомымі беларускаму чытачу, у зборніку выступаюць Барыс Алійнік, Паўло Моўчан, Міхаіл Шаўчэнка, Міхайла Слабашпіцкі. Добрым памагатым Алеся Бадака ў складанні гэтай кнігі выступіла ўкраінская пісьменніца Галіна Тарасюк.

Хацелася б спадзявацца, што серыю «Сугучча сэрцаў» заўважаць і на ўсіх прасторах СНД. Бібліятэка можа стаць падставай для работы літаратуразнаўцаў, для тых, хто звяртае ўвагу на развіццё блізкага літаратуры свету. Апошнім часам склалася так, што мы лепш ведаем сучасную польскую ці нямецкую літаратуру, чым паэзію і прозу нядаўніх суседзяў па Савецкім Саюзе. Адкрываць новае можна ж неабавязкова за кошт страты раней знаёмага і блізкага.

## Міхась ПАЗНЯКОЎ

### Быхаўчанам

*Добры дзень! Добры дзень, быхаўчане,*
*Дарагія мае землякі!*
*Шчыра дзякую вам за спатканне,*
*Дзякуй, што я прасветлы такі,*

*Што мяне сустракае як сына*
*Увабраны ў духмяністы май,*
*Расквітнелы прыгожа і слынна*
*Прыдняпроўскі наш велічны край.*

*Веюць радасцю шчодрыя нівы,*
*Ахінае красой гарадок.*
*Я наведаць бясконца шчаслівы*
*Свой чароўны бацькоўскі куток.*

*Рады сонечна вам, быхаўчане,*
*Дарагія мае землякі,*
*Што руплівасць у вас у пашане,*
*Што святлістай душой — сваякі.*

*Нашых сэрцаў жывое адзінства*
*Адчуваю кранальна між вас.*
*Я нібыта вярнуўся ў дзяцінства,*
*У святы, найдзівосны мой час.*

*Шчасця звонкага вам, быхаўчане.*
*Мой прывіце паклон, землякі.*
*Дзякуй вам за любоў, за спатканне,*
*Што расчулены сёння такі.*

## Алесь КАЗЕКА

* * *

*Дзе цябе адшукаць,*
*Песня роднай зямлі,*
*Каб табою імкнуцца да Бога?*
*У далёкіх кутках,*
*Дзе вы жыць пачалі,*
*На занесеных часам разлогах.*

*Як цябе распазнаць,*
*Песня роднай зямлі,*
*Сярод мноства*
*мелодый яскравых?*
*Вам падкажуць званы,*
*Што ад сэрца прыйшлі,*
*Ад падмуркаў духоўнае славы.*

*Як запомніць цябе,*
*Песня роднай зямлі,*
*Каб спатоліць*
*спаткання патрэбу?*
*А ці можна забыць аб Радзіме,*
*Калі*
*Вы душой яе сталі*
*І хлебам?*
*Беражыце мелодыю песні тае,*
*Каб нідзе пра яе не забыцца —*
*Як бацькоўскую Веру,*
*Што сілы дае,*
*Як адвечнага сэнсу крыніцу!*

## Мікола ЛЕЎЧАНКА

### Пойма

*Разнатраўя тут заўсёды плойма.*
*І як прыйдзе летняя пара,*
*Загудзе абуджаная пойма*
*Па абодвух берагах Дняпра.*

*Пад наглядам вартавых асілкаў —*
*Велічных і векавых дубоў,*
*Застракочуць з раніцы касілкі*
*Між каналаў і кустоўя зноў.*

*Пакладуць у роўныя пракосы*
*Яркааксамітны травастой,*
*Дзе даўным-даўно не свішчуць косы*
*У траве высокай і густой.*

*Дзе мянташак шоргат паўзабыты,*
*Грукату калёсаў не чуваць.*
*Хіляцца і вербы, і ракіты,*
*Цень сваю кладуць на сенажаць.*

*Кожны рух пазначаны, акрэслен*
*Аж да самых берагоў ракі.*
*Не заводзяць толькі болей песні*
*У кашулях белых мужыкі.*

*Велічна стаяць дубы-асілкі,*
*Бачаць свае постаці ў вадзе.*
*Цягнуць, цягнуць трактары касілкі,*
*І няма, нідзе няма людзей.*

## Зміtрок МАРОЗАЎ

### Быхаўшчыне

*Я шлях пачынаў свой няблізкі*
*З глыбіннай лясной стараны,*
*Дзе ў кожным сяле абеліскі*
*Стаяць напамінкам вайны.*

*Дзе граюць палі збажыною,*
*Пад ветрам хвалюецца лён...*
*Люблю цябе шчырай душою,*
*Мой Быхаўскі ветлы раён.*

*Табе, нібы роднаму бацьку,*
*Нясу я задумы свае,*
*Усё ў нас з табой па-сваяцку:*
*І песня, і хлеб на стале.*

## Раіса БАРАВІКОВА

* * *

*Мне на галінах мроіліся рысі.*
*Камандзіроўкі — у сямнаццаць год.*
*Георгій Ерамеевіч Барысаў*
*вучыў: паможа вопытам народ.*

*Праводзіў зоркай ранішняю Быхаў,*
*страчалі вечаровай Пяць вуглоў.*
*На басаножках пыл дарожны дыхаў,*
*і шчокі халадок начны калоў.*

*Трывожыў бэзам ціхі двор раёнкі,*
*дзе пры наглядзе строгага Дняпра*
*прывучваў вецер малады і звонкі*
*душу — да свету, сэрца — да пяра.*

## Сяргей УКРАІНКА

* * *

*У двары бацькоўскім, ля варот,*
*я падняў буслінае пяро —*
*белае буслінае пяро.*

*Захмяліла радасцю душу:*
*колькі ж цяпер песень напішу —*
*пра маю радзіму і народ —*
*светлых, быццам гэтае пяро,*
*белае буслінае пяро!*

*Я танютка завастрыў сціло,*
*каб яно як след пісаць магло,*
*наталіўся марай і паплыў*
*цераз дубнякі і паплавы*
*проста ў свет. За вечнасці парог...*
*Схамянуўся, а ў руцэ — пяро.*
*Чорнае буслінае пяро.*

## Алесь САКАЛОЎ

### Летапісец

*Свеціць месяц. З нябеснай высі*
*Асвятляе пакой. За сталом*
*Баркулабаўскі летапісец*
*Задуменна водзіць пяром.*

*Баркулабаўскі летапісец*
*Распавёў з глыбіні вякоў*
*Пра Івана, Ганну, Марысю*
*І пра многіх іх землякоў.*

*Як яны шчыравалі ў полі,*
*Гадавалі сваіх дзяцей,*
*Аб іх марылі лепшай долі,*
*Хлебам-соллю страчалі гасцей.*

*Уздымаліся ў неба храмы,*
*Будаваліся манастыры,*
*І дзяцей навучалі грамаце*
*І манахі, і святары.*

*Баркулабаўскі летапісец*
*Запісаў, не стрымаўшы слёз:*
*«А ў жніўні лёг снег на месяц,*
*Ураджай загінуў у мароз».*

*Плакаў згорблены летапісец*
*І працягваў аповед свой:*
*«Шмат спажывы ваўкам і рысям*
*Той галоднай і злой зімы».*

*Праз край родны каціліся войны,*
*Крымчакоў набегі ліхія,*
*І казакаў злыя сваволствы,*
*Летапісец згадаў пра іх.*

*Баркулабаўскі летапісец!*
*Твая кніга да нас дайшла,*
*У яе чытачоў — шмат тысяч,*
*Прага ведаў — палёт да святла.*

*У 21-м нашым стагоддзі*
*Трэба ведаць свае карані.*
*Прадкаў слынных у радаводзе,*
*Каб не сходзілі марна дні.*

*Усмешка сонца з нябеснай высі,*
*У блакіце звіняць жаўрукі,*
*Баркулабаўскі летапісец*
*Піша твор ля Дняпра ракі.*

*...Задуменна плывуць вякі...*



Фота Анатоля Клешчука

## Таццяна МУШЫНСКАЯ

### Усе мы з хат

*Хто ўпершыню пабачыў белы свет*
*У вясковай, простай,*
*пацямнелай хаце,—*
*Яе запомніць, як абліччa маці.*
*Бо хата — як загадкавы сусвет...*

*Усе мы з хат — музыка і паэт...*
*І хто ў вясковай хаце нарадзіўся,*
*Праменнем сонца*
*назаўжды хрысціўся.*
*А сонца ў росах спее, як ранет.*

*Хто рос паміж гаючых траў і дрэў,*
*Калонаў соснаў у саборы лесу,*
*Дзе ладзіць вецер урачыста месу...*
*Не сціхне ў сэрцы боскі той напеў!*

*Вянцы старыя, пацямнелы дах...*
*Старая хата —*
*быццам помнік роду.*
*Павее мятаю мне з агароду,*
*Развее водар той трывогу й страх.*

*Калі мы з хат, дык побач лес і поле,*
*Прастору сэрцу і душы даволі,*
*І вецер памяці спявае ў голлі,*
*І яблык лёсу падае у дол...*

## Алесь МАКРАЦОЎ

### Парцэлы

* * *

*Стары Быхаў...*
*Мінулае*
*цэдзіць у сэрца*
*з руінаў*
*замка Сапегаў...*

* * *

*Геніяльныя*
*творы мастацтва...*
*Рэха*
*творчасці Бога.*

* * *

*Народ*
*без сваёй мовы —*
*што мастак*
*без палітры...*

* * *

*Паэты і дрэвы*
*не гінуць ад голаду,*
*а паміраюць*
*ад засухі...*

* * *

*Над студняй,*
*выкапанай*
*маім дзедам,*
*апошні журавель...*

* * *

*Апісаўшы*
*крывую жыцця —*
*бумерангам*
*дамоў вярнуся...*

* * *

*Цела*
*без душы...*
*Хата*
*без мамы...*

* * *

*Душа...*
*Лясная мурашка*
*цягне*
*жыцця бервяно...*

* * *

*Сэрца —*
*таемная сцежка:*
*чуюцца*
*крокі жыцця...*

## Аркадзь КУЛЯШОЎ

* * *

*Ёсць у паэта свой аблог цалінны.*
*Някрануты прастор для баразён,*
*Дзе ён працуе з першае хвіліны*
*І да апошніх вечаровых дзён;*

*Ёсць думак прагавітае насенне.*
*У жменю назбіранае з дарог,*
*Што спелага чакае ўвасаблення,*
*Заліўшы хваляй жытняю аблог;*

*Ёсць сэрца маладое, без якога —*
*Без палкага, жывога пачуцця —*
*Няма ў яго нічога: ні аблога,*
*Ні плённых дум, ні самаго жыцця;*

*І ёсць адказнасць перад строгім вершам,*
*Перад яго пачаткам і канцом —*
*Каб баразну, радком пачаўшы першым,*
*У снап звязаць шаснаццатым радком.*

## Віктар КУНЦЭВІЧ

### Магілёўшчына

*Праз стос гадоў плюскоча хваляй*
*І велічна нясе удалеч*
*Вады бясцэннай серабро,*
*А з ёй і памяць, наш Дняпро.*
*Жыццё травінкам дорыць, краскам*
*І да людзей заўжды ён з ласкай —*
*Іх кліча з лесу і палёў.*
*Працоўны горад Магілёў*
*У люстра вод яго глядзіцца.*
*Рака для горада — крыніца.*
*Рака для горада — жыццё.*
*Свае ён крылы распасцёр*
*Уздоўж яе гаючай сілы.*
*Сівы Дняпро,*
*Мой горад мілы,*
*Гады так хутка карагодзяць —*
*Я вас люблю,*
*Жывіце ў згодзе:*
*Хай ні рака, ні ўнук, ні сын*
*Не ўбачаць горада руін.*

## Анатоль СЕРБАНТОВІЧ

### Няма мяне

*Чаму і як —*
*мне невядома,*
*Ніхто не верыць напавер...*
*Згубілася у ваенкома*
*Мая папера між папер...*

*І як я мог,*
*і дзе згубіўся —*
*Няўжо нікога не кране?*
*Я не ўтапіўся,*
*не разбіўся.*
*...Няма мяне... Няма мяне...*

*Няма ні тут, ні там,*
*за дымкай,*
*Няма ў дзвярах,*
*няма ў акне.*
*Няма мяне*
*ў тваіх абдымках,*
*Няма мяне... Няма мяне.*

*І толькі там, пазней,*
*з палёгкай,*
*У сне,*
*што прыйдзе незнарок,*
*Убачыш,*
*як душа далёка*
*Да зор ляціць,*
*як матылёк.*

## Мікола АЎРАМЧЫК

* * *

*Ля спаленае з жыхарамі вёскі,*
*Дзе ў акупацыю мясцовы бор*
*Дашчэнту высекла чужое войска,*
*Зноў сталі сосны гонкія ў дазор.*

*У маскхалатах з жаўцізной зялёнай*
*Стаяць, як партызанкі тых часоў,*
*Увешаныя шашкамі лімонак*
*З усіх бакоў, з плячэй да паясоў.*

*Ды гэтыя нязвычныя гранаты*
*Не смерць і гром рассейваюць наўкол,*
*А спелыя крылатыя зярняты,*
*Што ціха-ціха падаюць на дол.*

*Пустыя шышкі, ссохлую ігліцу*
*Зрывае вецер з пругкага галля,*
*І там, куды ім суджана зваліцца,*
*Становіцца ўрадліваю зямля.*

*На ёй расце няспынна на выгодзе*
*Густой сцяной падлесак малады,*
*Што не дае выветрываць пагодзе*
*Жахлівага пажарышча сляды.*

## Сцяпан ГАЎРУСЁЎ

* * *

*А можа, там і ёсць той бераг,*
*Дзе сонна цмокае рака,*
*Дзе ў туманах сцюдзёна-шэрых*
*Бляск аксамітны лазняка?*

*А можа, там, дзе мімаволі*
*Святлее даль?.. А можа, там,*
*Дзе ёсць сапраўднае раздолле*
*Паводкам быстрым і плытам?*

*А можа, там, дзе павароты*
*Спрашчаюць шлях?.. А можа, там,*
*Дзе адчыняюцца шыроты*
*І віядукам, і мастам?*

*А можа, там, дзе і спрасоння*
*Са мной зашэпчуцца лісты?*
*А можа, радасць стрэне сёння?*
*А можа, ты? А можа, ты?*

*На свеце ёсць такія высі,*
*Куды не кожнаму ўзысці.*
*Дык ты з'явіся і ўсміхніся*
*І ўсё душой азалаці.*

## Міхась СТРАЛЬЦОЎ

* * *

*Напэўна, гусі на бяду*
*Крычалі — журавы маўчалі,*
*Калі ў дарозе чараду*
*І зім, і лет маіх страчалі.*

*Буслы, як нейкія паслы,*
*Паважную хавалі тайну.*
*Ды поўніўся мой зрок і слых*
*Сваёю тайнай жыццядайнай.*

*Ужо і сэрца абняла*
*І пранізала тайны сіла,*
*Ужо на ветразі крыла*
*Мяне узнесла і насіла.*

*Тады я глянуў на зямлю,*
*Дзе засталіся чалавекі,*
*І зразумеў, як я люблю*
*Ўсе тыя ж паплавы і рэкі.*

*Што толькі міг —*
*і ўжо табе*
*Ні спадзявання, ні вяртання,*
*Што будзеш плакаць у журбе —*
*Без даравання, без адхлання...*

*Што я хацеў, што я хацеў,*
*Што за праява адбылася?..*
*І сніў, што сам я адляцеў —*
*Душа ўзяла і засталася.*

## Пятро ПРЫХОДЗЬКА

### Май 1945-га

*Ён нёс па свеце ранак новы,*
*Ператвараў у яву сны, —*
*Зялёны, сіні і барвовы —*
*Тры колеры ўсвятляў вясны.*

*Быў час нялёгкі, невыносны,*
*Калі ля Волгі бой вялі.*
*Мінула шмат і зім, і вёснаў,*
*Пакуль мы на Берлін пайшлі.*

*І вось разнёс ён птушак спевы*
*Па зеляніне траў, імхоў.*
*Здавалася, што самі дрэвы*
*Бліжэй прыльнулі да шляхоў.*

*Ён прагучаў у звонкім гудзе*
*Вясны над кожнай стараной:*
*«Не парушайце міру, людзі,*
*Здабытага* ***такой*** *цаной!»*

*І ад нябёс, у даль пасцёртых,*
*Святло ішло палям, лясам, —*
*А на зямлі жывых і мёртвых*
*Ахрышчваў Усявышні Сам.*

## Аляксей ПЫСІН

* * *

*Ёсць на свеце мой алень.*
*Ёсць і гэткае маленне:*
*Будзь заўсёды у аленя*
*Цёмны мох і светлы дзень!*

*Вы, разумныя браты,*
*Я і сам страляць умею, —*
*Дайце жыць майму аленю*
*Пад галінкай дабраты.*

*Вось у цішыні лясоў*
*Ліст трапеча сырванелы.*
*Можа, гэта страх аленя*
*Тут асінкаю ўзышоў.*

*Я іду, іду між дрэў*
*Па асінавай алеі.*
*Мне пабачыць бы аленя...*
*Зноў я чую блізкі стрэл.*



Фота Анатоля Клешчука

## Вольга ДАНІЛАВА

### За калінавым мастом

*Пі калінавы горкі той сок…*
*Разам пойдзем па сцежках Айчыны*
*За нясіны Калінавы мост*
*Ў край, дзе горычку зззе каліна.*

*Пі калінавы горкі той сок.*
*Ў гэтай казцы салодкім ён стане:*
*Тут стагоддзі суцішваюць крок*
*І, як воі, вартуюць каханне.*

*Тут гараць вечаровыя свечы,*
*Тут знікае і зайздрасць, і злосць.*
*І на гэтых прасторах спрадвечных*
*Будзе вечнай твая маладосць.*

*Пі калінавы горкі той сок.*
*Абяцаю: ён будзе салодкім.*

## Кастусь КІРЭЕНКА

### Словы Радзіме

**З «Кнігі ста песень»**

*Ці так вянкі свае сплялі мы,*
*Ці так шляхі свае вялі,*
*Па сэрцы матухны-Радзімы*
*Звяраем думы на зямлі.*

*Не без пакуты песня спее.*
*Не для забавы бліск ляза.*
*Раздіма. Радасць. Боль. Надзея.*
*І смутку ціхая сляза.*

*Радзіма ўся — лятункаў мова.*
*І скрозь, заўжды пад сінявой, —*
*Як шчасця звонкая падкова,*
*Яе сярпок над галавой.*

## Алесь ПІСЬМЯНКОЎ

* * *

*Ты адбі мне тэлеграму,*
*Што у нашай старане*
*Ў ціхай вёсцы Белы Камень*
*Выпаў белы-белы снег.*
*Вёсак многа. Ёсць другія.*
*Ў вёсках нашы карані.*
*У мяне не настальгія —*
*Проста сум па чысціні.*
*Проста сум па белым полі,*
*Па рабінавым агні,*
*Проста хочацца да болю*
*Першароднай чысціні,*
*Той, што мроіцца начамі,*
*Што з душы здымае грэх...*
*Проста ў вёсцы Белы Камень*
*Самы белы ў свеце снег.*

## Васіль РАГАЎЦОЎ

### Не верце...

*Не верце, што дрэвы не тужаць ніколі.*
*Шчымліва журбуюць яны й на прыволлі*
*па песнях птушыных, не чуць якіх болей,*
*па ветру-свавольцу, згубіўся што ў полі.*

*Не верце, што рэкі не просяць напіцца.*
*У сушу-спякоту, каб смагі пазбыцца,*
*сумуюць яны па сцюдзёных крыніцах,*
*ім сняцца начамі дажджы-навальніцы.*

*Не верце, што сэрца не знае спачыну,*
*што б'ецца яно ўвесь час несупынна.*
*Яно замірае на хвілю-часіну*
*ад жаху…*
*здзіўлення…*
*пагляду дзяўчыны.*



# Міхась Пазнякоў: «Мая радзіма — цэнтр Сусвету»

Беларускі паэт, празаік, перакладчык, крытык, мовазнавец, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў родам з вёскі Забродддзе Быхаўскага раёна. Стварыў шматлікія загадкі на беларуска-рускія амонімы, антонімы, матэматычныя загадкі. Склаў «Слоўнік эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы». Нямала напісаў кніг: арыгінальных вершаў, апавяданняў, казак, азбук, скорагаворак, смяшынак, калыханак, каламбураў, небылічак…

**— Міхась Паўлавіч, што значыць для паэта яго малая радзіма?**

— Малая радзіма для мяне — цэнтр Сусвету, калыска мая залатая, дзе па-ранейшаму асалодна хадзіць басанож па расе, слухаць цішыню, размаўляць з дрэвамі… Тут бацькі далі мне жыццё. Тут закапана мая пупавіна. Тут заўсёды з маёй чэпкай дзіцячай памяці выплываюць тысячы самых яркіх малюнкаў, гісторый, непаўторная музыка, жывыя фарбы роднай зямлі… Гэта — невычэрпная крыніца натхнення і лякарня для душы. Тут я зноў вяртаюся ў чысцюткі, святлісты, дзівосны свет харастваі таямніц… Гэта хвалюючы пачатак далучанасці да гісторыі роду, да каранёў нашых, да цягавітага і шчырага народа, да Вялікай Радзімы, да Вялікага Свету.

Кожны год лячу ў дарагія быхаўскія мясціны, у маё амаль ужо вымерлае Забродддзе і да болю прырастаю да любасных краявідаў. Вязу свой нізкі сыноўні паклон, напаўняюся новымі сіламі, неверагодна гаючай энергіяй, вялікімі марамі і планамі. Там глыбока разумею: колькі мы губляем у паўсядзённай, нярэдка дробязнай і мізэрнай мітусні, не ўмеем жыць і любіць па самай высокай, самай вартаснай мерцы. Калі б я мог у далёкім будучым нарадзіцца яшчэ раз, то хацеў бы толькі там, на беразе рэчкі Грэза.

**— Што можа быць адметным для ўдзельнікаў і гасцей Свята беларускага пісьменства на быхаўскай зямлі?**

— Адметная ўжо сама па сабе Быхаўшчына: людзьмі, гісторыяй, прыродай, вынікамі працы. Гэта — радзіма вядомых пісьменнікаў і вучоных Барыса Стральцова і Міхася Мушынскага, маршала авіяцыі і Героя Савецкага Саюза Сцяпана Красоўскага, вучонага і дзяржаўнага дзеяча Аляксандра Радзькова... Тут у далёкія часы шчыравалі знакамітыя беларускія асветнікі Мялецій Смятрыцкі і Лаўрэнцій Зізаній. Тут стваралася знакамітая Баркулабаўская хроніка. Тут нарадзіліся, жылі і працавалі многія іншыя адметныя дзеячы навукі, культуры і мастацтва, выдатныя прадстаўнікі іншых сфер дзейнасці. Як і кожны іншы рэгіён Беларусі, Быхаўшчына на свяце беларускага пісьменства можа здзівіць і парадаваць, уразіць і натхніць кожнага, хто не на словах, а на справе аддany свайму народу, працуе на росквіт нашай краіны, марыць пра яе больш шчаслівую будучыню.

**— Вы — майстар розных жанраў: пішаце прозу і паэзію, кнігі для дзяцей і для вайскоўцаў, складаеце запатрабаваныя серыі энцыклапедычнага характару, слоўнікі. Як жа ўдаецца спалучаць такія розныя творчыя кірункі?**

— Сапраўды, я працую ў розных жанрах і прыдумваю новыя, пішу для дзяцей і для дарослых, займаюся навукай у галіне сучаснага мовазнаўства — лексікай і лексікаграфіяй, перакладаю твор замежных пісьменнікаў на беларускую мову і на рускую — беларускіх пісьменнікаў. У канцы 1970-х гадоў пачынаў як мовазнавец, працаваў навуковым супрацоўнікам Інстытута мовазнаўства АН БССР. Пашчасцілівілася быць памочнікам самога Кандрата Крапівы падчас падрыхтоўкі да выдання двухтомнага «Русско-белорусского словаря». Скончыў аспірантуру, пісаў і друкаваў мовазнаўчыя артыкулы. У 1981 г. мяне рэкамендавалі на пасаду дырэктара ствараемага Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Некалькі год работы пад зоркай гэтага незвычайнай адоранасці класіка беларускай літаратуры паспрыялі, каб і я таксама паспрабаваў свае сілы ў розных жанрах. Калі нарадзіліся свае дзеці і пачаў працаваць у выдавецтве «Юнацтва», то далучыўся і да дзіцячай тэматыкі. За 18 гадоў выдавецкай работы — літаратурны рэдактар, загадчык рэдакцыі, намеснік галоўнага рэдактара, галоўны рэдактар — даводзілася выступаць у друку ў якасці публіцыста, крытыка, літаратуразнаўцы. Напісаў больш як трыста рэцэнзій на рукапісы і кнігі самых розных аўтараў.

У школьныя гады марыў стаць афіцэрам, прачытаў сотні ваенных кніг. Цяпер уваходжу ў Студыю ваенных пісьменнікаў пры Цэнтральным доме афіцэраў. Прымаю самы актыўны ўдзел у рабоце Рэспубліканскай камісіі па шэфстве работнікаў культуры і мастацтва над асабовым складам Узброеных сіл Беларусі. Мы пабывалі на ўсіх пагранзаставах, ва ўсіх ваенных вучэльнях, вайсковых часцях. За творы ваенна-патрыятычнай тэматыкі маю дзве прэміі Міністра абароны.

У мяне няма творчых прастояў, калі не адно, то другое, трэцяе, чацвёртае ці пятае пішацца. А спалучаць усё ўдаецца не толькі дзякуючы разнастайнасці захапленняў, але і працоўнай загартоўцы, атрыманай у дзяцінстве.

Тата і мама былі працаголікамі. У сям'і нашай гадаваліся 11 дзяцей, кожнаму хапала працы. Тата мяне навучыў усяму, да вучобы, да кнігі, да паэзіі далучаў з вялікай надзеяй. Мы і раслі з непахісным перакананнем, што нястомная, штодзённая праца робіць чалавека багатым і свабодным, па-сапраўднаму шчаслівым.

**— Вашы кнігі — а іх нямала — выходзяць у розных выдавецтвах. Цікава, гэта і ёсць той залаты выпадак, калі імя працуе на чалавека?**

— У мяне ўжо 45 літаратурна-мастацкіх кніг, некалькі навукова-пазнавальных, добры дзясятак перакладных, больш як 2500 публікацый у перыядычных выданнях. Супрацоўнічаю з рознымі выдавецтвамі. Пераважна пішу для дзяцей, і гэтыя творы ўключаны ў шматлікія чытанкі, зборнікі, хрэстаматыі, падручнікі. На маім рахунку дзевяць літаратурных прэмій, некалькі медалёў, сярод якіх высокая дзяржаўная ўзнагарода — медаль Францыска Скарыны. Ёсць у мяне і дыпломы чытацкіх сімпатый, якімі вельмі даражу. І сапраўды, цяпер імя працуе на мяне, кнігі разыходзяцца хутка. Выдавецтвы нярэдка робяць заказы. Выдатныя стасункі склаліся з РВУ «Выдавецкі дом «Звязда», выдавецтвамі «Народная асвета», «Чатыры чвэрці».

У свой час па заказе РВУ «Літаратура і Мастацтва» стварыў займальную кнігу «Гульнясloў». Яна — пра слова, пра наша нацыянальнае багацце — мову. Па заказе выдавецтва «Пачатковая школа» падрыхтаваў «Слоўнік беларуска-рускіх амонімаў». «Народная асвета» замовіла серыю кніжак «Свет вакол нас». Цяпер для РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» заканчваю навукова-пазнавальную кніжку «Падарожжа ў гісторыю спорту». Па заказе выдавецтва «Чатыры чвэрці» пераклаў кніжачку кітайскіх народных казак і падрыхтаваў серыю паэтычных кніжак для дзяцей «Дзівосны куфэрак». Але вядомасць і абавязвае: пісаць лепш, працаваць больш адказна.

**— Як вы лічыце, на якой мове сучасны творца павінен гаварыць са сваім чытачом: на спрошчанай побытам і інтэрнэтам альбо на класічнай, якая вымагае пэўнага стылю і паводзінаў?**

— Мова як інструмент стварэння культуры народа мае вялікае значэнне ў жыццядзейнасці грамадства. Прыгожая, гнуткая літаратурная мова — паказчык выхаванасці, культуры чалавека і грамадства. Гульні з класічнай мовай, звужэнне або спрашчэнне вядуць да страты адметнасцяў і выяўленчых магчымасцяў мовы, яе нюансаў, адценняў, энергетыкі, маляўнічасці. Мова — жывы, складаны арганізм, са сваімі законамі, таямніцамі і велізарнымі магчымасцямі. Чым глыбей і шырэй пісьменнік карыстаецца яе багаццямі, тым хутчэй і лепш завалодае сэрцамі чытачоў. Узровень валодання мовай — паказчык спеласці таленту. Мы ўсе карыстаемся аднымі і тымі словамі, але ў выдатных майстроў яны арганізаваны так, што ўзнікае прыцягальная магія, той цуд, які заварожвае душу чытача.

Працуючы над слоўнікамі і перакладамі твораў, найбольш разумееш, што дзівосныя магчымасці мовы мы выкарыстоўваем на нязначны працэнт. Віной гэтаму наша хуткаснае жыццё. Тым не менш, трэба асабліва нам, пісьменнікам, карыстацца паўнакроўнай, класічнай мовай, падключаючы ўсе яе магчымасці. Імкнуцца скарыстоўваць яе багацці, гэтак жа, як чалавеку імкнуцца наблізіцца да чалавечага ідэалу. Пісьменнік тут павінен не падладжвацца да пэўнага чытацкага кола, а весці яго за сабой, фарміруючы адметны густ. Адным словам, ад паўнакроўнага, шматфарбнага, як мага класічнага ўжывання мовы залежыць і яе лёс, яе прыцягальнасць і даўгавечнасць. А мова ў нас — найбагатая, найглыбокая, найпявучая, найранімая, як і душа народа.

Ірына ТУЛУПАВА



# Дзяліць нам няма чаго!

У адным з інтэрв'ю Валерый Казакоў назваў сябе «пісьменнікам, які добра ведае чыноўнікаў». Пра гэта сведчаць і яго творы, якія нярэдка класіфіцыруюць як «новы палітычны раман». Такія спалучэнні характэрныя для яго жыцця. Сацыёлаг, які, акрамя раманаў, піша публіцыстыку, апавяданні і вершы. Выхадзец з Беларусі, ён жыве ў Расіі і з'яўляецца старшынёй Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі «Беларусы Расіі», створанай у 1999 годзе.

**— Валерый Мікалаевіч, паводле апошніх дадзеных, у Расіі пражывае прыкладна пяцьсот тысяч беларусаў. Напярэдадні распаду СССР лічба была большай удвая…**

— Цяжка параўноўваць гэтыя лічбы, але, што датычыць колькасці беларусаў у Расіі, іх, як ні круці, становіцца менш. Не, яны нікуды не знікаюць, не паміраюць, як мухі. Яны перастаюць лічыць сябе беларусамі. За апошнія дваццаць гадоў нас у Расіі стала амаль на мільён меней. Думаю, праз дзесяцігоддзе страцім яшчэ тысяч трыста. Чаму гэта адбываецца ў краіне, дзе беларусы выступаюць нацыястваральнай часткай, прычым спрадвечным яе складнікам, такім жа старажытным, як угра-фіны, татары і украінцы? Даць адназначны адказ на гэтае пытанне немагчыма, таму што існуюць як аб'ектыўныя, так і суб'ектыўныя фактары.

**— З мэтай аб'яднаць беларусаў створана і дзейнічае Федэральная нацыянальна-культурная аўтаномія «Беларусы Расіі». Якія яшчэ мэты вы ставіце перад сабой, пра што дбаеце?**

— Жывём паўнакроўным грамадскім жыццём, якое гарантавана Канстытуцыяй і законамі Расійскай Федэрацыі. У гэтым плане асаблівых праблем няма. Пасля з'езду аўтаноміі мы перафармаціравалі нашу працу і спрабуем быць карыснымі для Беларусі і беларусаў. У прыватнасці, спрыяць вяртанню на Радзіму вывезеных і перамешчаных каштоўнасцей, выкарыстоўваючы і праграмы Саюзнай дзяржавы. Цяжкая гэтая праца. Але яшчэ цяжэй рэалізаваць нашы ідэі па захаванні беларускай самаідэнтычнасці ў шматнацыянальнай Расіі. Беларусы ў ёй, як і іншыя еўрапейцы, схільныя да натуральнай фізічнай і моўнай асіміляцыі. Вось чаму мы лічым, што захаванне мовы, культуры і традыцый сёння выходзіць на першае месца. Толькі чацвёра з 64 кіраўнікоў грамадскіх аб'яднанняў беларусаў у Расіі свабодна валодаюць беларускай мовай, што гаворыць само за сябе. Яшчэ адзін кірунак — абарона незалежнасці і годнасці Беларусі ў самой Расіі і за мяжой.

**— Наколькі адчуваецца адзінства беларусаў? Ці абумоўлена «пачуццё яднання» геаграфічна?**

— Адзінства — пачуццё складанае, яно прадугледжвае масавасць, адзінства мэт і адзіную ідэалогію. Сама па сабе Расія — шматаблічная, і ў гэтым яе сіла. Унутраны свет, прыкладам, жыхароў Цвярской вобласці адрозніваецца ад менталітэту жыхароў Кузбаса ці Якутыі. Нашы землякі, пражываючы ў розных кутках Расіі, непазбежна нясуць у сабе і гэтыя рэгіянальныя адрозненні. Параўноўваць беларусаў з немцамі, армянамі, узбекамі або грузінамі некарэктна. У каханні армяне прызнаюцца па-армянску, і ў храмах моляцца на роднай мове. Таму і за межамі сваёй краіны яны цягнуцца адзін да аднаго, дапамагаюць, выручаюць. Пачуццё зямляцтва ў беларусаў развіта слаба.

**— Я так разумею, касцяк дыяспары — людзі старэйшага пакалення. А што моладзь?**

— Цягнем, з усіх сіл цягнем да сябе моладзь, якая і ў Беларусі ні разу не была. Ёсць арганізацыі — Іркуцкая, Яраслаўская, Маскоўская, Піцерская, дзе на першым месцы — моладзевая тэма. Рукі апускаць не будзем.

**— Наколькі актыўна ўвогуле ўдзельнічаюць у жыцці дыяспары выхадцы з Беларусі, якія дабіліся поспеху ў Расіі?**

— Трэці год узначальваю Федэральную нацыянальна-культурную аўтаномію «Беларусы Расіі», але нейкай дапамогі або актыўнасці з боку нашых знакамітых землякоў не назіраю. Хутчэй наадварот. Можа, іх час не наступіў, можа, усё яшчэ наперадзе.

**— Ці ўдзельнічае дыяспара ў палітычным жыцці Расіі і Беларусі? І якая можа быць яе роля ў развіцці Саюзнай дзяржавы?**

— Наша арганізацыя не палітычная, але кожны з нас як грамадзянін Расіі мае свае палітычныя прыхільнасці. Стварэнне наддзяржаўных структур увогуле справа доўгая і складаная. Гэта разбурыць лёгка, а адбудаваць і ўзнавіць — цяжка. Але мы абавязаныя аб'ядноўвацца. Калі гэтага не адбудзецца, то ад лапікавай коўдры СНД на працягу пэўнага часу можа нічога не застацца.

Беларусаў у свеце мала, дзяліць нам няма чаго. І сабраць нас разам можа толькі афіцыйны Мінск. Сабраць, нягледзячы на нашы погляды, палітычныя прыхільнасці і крыўды — цяперашнія і мінулыя. Мы адзін народ, і народам павінны застацца ў стагоддзях.

Таццяна КУЗНЯЧЭНКАВА

# Новыя хронікі Быхаўца

**Анастасія ГРЫШЧУК**

Сёлета горад Быхаў літаральна ззяе ў промнях славы. Яму пашчасціла прыняць у сябе юбілейны Дзень пісьменства. З іншага боку, можна сказаць, што Дню пісьменства пашанцавала быць прынятым адным з найстарэйшых гарадоў Беларусі, уладальнікам свайго ўласнага замка, «Хронікі Быхаўца» і праслаўленага вернікамі баркалабаўскага абраза Божай Маці.

Як ні круці, увагай Быхаў не абдзелены. І калі б горад быў чалавекам, яму было б надзвычай прыемна даведацца, што РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» выпусціла пра яго дзве кнігі, якія і прэзентуюцца на Дні пісьменства.

«Летапіс горада Быхава», што выйшаў на рускай мове, і «Быхаўшчына. Дыханне вякоў» шмат у чым падобныя і разам з тым — шмат у чым розняцца. Аднак самае істотнае падабенства, як вы ўжо здагадаліся, — увага да гістарычнага мінулага Быхава, а яно ў горада багатае. Найбольшая ж розніца хаваецца, скажам так, у «жанры» кніг: першая сапраўды нагадвае старадаўні летапіс, другая ж не што іншае, як фотаальбом з невялікімі, але ёмістымі тэкставымі ўстаўкамі.

Прывязку да старажытных дакументаў у выпадку з «Летапісам горада Быхава» мы бачым не толькі ў самой назве, але і ў афармленні кнігі. Кожная старонка мае колер састарэлай паперы, усе дызайнерскія дробязі спалучаюцца ў арганічную карціну — так нараджаецца старажытны дух. Ажыўляюць расповед пра доўгае жыццё Быхава шматлікія вынаскі з пазнакай «Цікавы факт». Тут сапраўды змешчаныя цікавосткі (кшталту «ў Дняпры вадзіліся асятры»), а таксама тлумачэнні тэрмінаў, кароткія біяграфічныя звесткі пра гістарычных асоб, што згадваюцца ў тэксце, вытрымкі з дакументаў (збольшага гэта цытаты з першых быхаўскіх газет). Канечне, ёсць ілюстрацыйныя матэрыялы: фота архіўныя і сучасныя, малюнкі, планы, мапы і г. д. Кожны з раздзелаў мае падраздзелы, што таксама на карысць выдання.







Усяго ж асноўных частак пяць: «Зямля, дзе ты нарадзіўся», «Стары Быхаў: ад сярэднявечча да Рэнесансу», «Быхаў павятовы», «Гісторыя Быхава савецкага перыяду», «Быхаў сучасны». Асаблівая ўвага — славутым землякам быхаўчан. У заключэнні падаецца храналогія асноўных падзей горада, пачынаючы ад заснавання ў 1370-м годзе да нашых дзён. Адразу ж папярэджваю будучых чытачоў, што лёгкім чытвом, нягледзячы на маляўнічае афармленне кнігі, гэта назваць нельга. Тэксты ў навуковым стылі. Да таго ж, гісторыя горада разглядаецца сапраўды падрабязна, што апраўдвае нарачэнне кнігі «летапісам». Так, першы раздзел апісвае стан сучасных быхаўскіх тэрыторый яшчэ ў часы палеаліту, прапануе пералік археалагічных культур, выяўленых у ваколіцах Быхава і г. д. Што цікава, у кнізе выкарыстаны матэрыялы Быхаўскага краязнаўчага музея і краязнаўчага гуртка «Спадчына» (ліцэй № 5 у Быхаве). Так бы мовіць, усё сваё.

А вось альбом «Быхаўшчына. Дыханне вякоў» падае інфармацыю публіцыстычна. Тут болей «лірычных адступленняў», ды і саму кнігу адкрываюць-закрываюць вершы — Міхася Пазнякова і Міколы Леўчанкі.

Хоць назва альбома падкрэслівае скіраванасць у мінулае, тут больш сучасных фотаздымкаў, аўтар якіх — Анатоль Кляшчук. З іх моцна ўражваюць урачыстай змрочнасцю фота «Лудчыцкай вышыні» — манумента, прысвечанага памяці ахвяр Вялікай Айчыннай вайны.

У дзевятнаццаці невялікіх раздзелах каротка і змястоўна распавядаецца пра геральдыку Быхава, пра ролю Дняпра ў яго гісторыі, пра мясцовы замак і рэлігійныя збудаванні ды інш. Асаблівая ўвага — мястэчку Баркалабава з яго славутым манастыром і абразом Божай Маці. Калі першая кніга ўяўляецца грунтоўным і сур'ёзным апавяданнем, то другая падобная да мазаікі, за выключэннем раздзела «Вехі гісторыі», які літаральна паўтарае храналогію падзей, пададзеную ў «Летапісе горада Быхава».

Хоць кнігі выйшлі адначасова і прэзентаваліся ў адзін дзень, наўрад ці ім давядзецца канкурыраваць між сабой. «Летапіс горада Быхава» прыцягне ўвагу гісторыкаў, краязнаўцаў, аматараў даўніны. Выпадковых чытачоў у гэтай кнізе будзе няшмат. Альбом жа перш за ўсё патрапіць у рукі турыстаў.

# Баркулабаўскі летапіс: поўная версія

**Нацыянальная бібліятэка Беларусі з'яўляецца традыцыйным удзельнікам Дня беларускага пісьменства. Пра праекты галоўнай кніжніцы краіны, якія будуць рэалізаваныя сёлета, распавядае Алесь Суша, намеснік дырэктара НББ па навуковай рабоце і выдавецкай дзейнасці.**

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

У прымеркаванай да свята працы Нацыянальнай бібліятэкі можна вылучыць два кірункі. Першы — прэзентацыя 2-томнага выдання, прысвечанага Баркулабаўскаму летапісу, якая пройдзе сумесна з выдавецтвам «Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі». Выбар гэтага помніка духоўнай культуры ў якасці аб'екта даследаванняў невыпадковы, бо менавіта летапіс з'яўляецца адным з галоўных брэндаў як Быхаўшчыны, так і сёлетняга свята пісьменства.

Некалькі гадоў таму супрацоўнікі маскоўскага Дзяржаўнага гістарычнага музея перадалі ў НББ электронную копію рукапіснага спіса Баркулабаўскага летапісу, таму беларускія даследчыкі атрымалі магчымасць паўнавартасна даследаваць яе. І ў такой працы існавала сур'ёзная патрэба, бо Баркулабаўскі летапіс да нашага часу вывучаны недастаткова. У друку сустракаюцца розныя, часам процілеглыя меркаванні адносна асобы аўтара і складальніка летапісу, яго назвы, часу і месца напісання, складу. Нягледзячы на сваю выключную значнасць для айчыннай культуры, тэкст яшчэ ніколі не друкаваўся ў поўным аб'ёме арыгінальнага рукапісу, у якім ён захоўваецца. Са 174 аркушаў (агульны памер помніка) было апублікавана менш як 40! Гэта прытым, што летапіс уключаны ў школьную праграму па беларускай літаратуры, а таму і ў шматлікія анталогіі ды хрэстаматыі.

Паводле меркавання А. Сушы, Баркулабаўскім летапісам, ці дакладней Баркулабаўскім летапісным спісам, правільней было б называць не толькі заключны фрагмент гэтага рукапісу, у якім апісваецца пераважна лакальная гісторыя Усходняй Беларусі, але тэкст усяго рукапісу цалкам. Нельга лічыць яго зборнікам самастойных, штучна сабраных разам матэрыялаў, гэта адносна цэласны помнік, усе часткі якога звязаныя між сабою і выбудоўваюцца ў агульную структуру.

У адпаведнасці з ёй Баркулабаўскі летапіс пачынаецца з духоўнага ўступу — царкоўна-малітоўнай часткі. Працягваецца звесткамі з біблейскай гісторыі як найважнейшай і першай часткі агульначалавечай гісторыі (у разуменні таго часу). Далей у летапісе ідзе гаворка пра палітычную гісторыю ўласнага рэгіёна і сваёй дзяржавы (ВКЛ) ад легендарных часоў да сучаснасці. Урэшце ён завяршаецца больш падрабязнымі звесткамі мясцовага характару — пра мястэчка Баркалабава і яго наваколле.

По сутнасці, рукапіс уяўляе сабой звод хранікальных матэрыялаў пра падзеі ад найдаўнейшых часоў да 1634 года, сабраных з розных крыніц і перапісаных разам у другой палове XVII ст. Кожны з гэтых матэрыялаў адносна аўтаномны, большасць мае асобнае паходжанне. Але яны былі сабраныя разам з адной канкрэтнай мэтай — упісаць гісторыю і тагачасны стан мястэчка Баркалабава і наваколля ў кантэкст усеагульнай гісторыі і гісторыі дзяржавы.

Адаптацыю старажытнага тэксту выканалі Ірына Будзько, Наталля Паляшчук, Ганна Федарэнка і Эльвіра Ярмоленка (аркушы 1—70), а таксама Валянціна Мароз і Анатоль Крыварот (аркушы 71—137). Публікацыя заключнай



*Фрагмент Баркулабаўскага летапісу.*

часткі летапіснага спіса (аркушы 137—174) была ажыццёўлена паводле ўзнаўлення Міколы Улашчыка ў «Полном собрании русских летописей». Агульную каардынацыю і падрыхтоўку навуковага даследавання, прысвечанага летапісу, ажыццяўляў Алесь Суша.

Другім кірункам удзелу НББ стане арганізацыя выстаўкі-прэзентацыі «Славутая зямля славутых продкаў», прысвечанай знакамітым асобам і кніжным помнікам, звязаным з гісторыяй Быхава і быхаўскага краю. У экспазіцыі будзе прадстаўлена тэматычная навуковая, навукова-папулярная і даведачная літаратура. Асобнае месца на выстаўцы зоймуць некалькі груп унікальных выданняў. Гэта кнігі даследчыкаў Баркулабаўскага летапісу Еўдакіма Раманава і Міколы Улашчыка з дароўнымі надпісамі. Каля дзясятка выданняў з кніжнага збору, які ў XVII — XVIII стагоддзях належаў каталіцкаму манастыру канонікаў лютэранскіх у Быхаве. А таксама кніга, у якой утрымліваецца падрабязнае апісанне Быхава сярэдзіны XIX стагоддзя. Яе поўная назва — «Путевые записки русского художника И. Захарова, собранные во время путешествия по России, Турции, Греции, Италии и Германии» (Санкт-Пецярбург, 1854).

# Беларускі брэнд

Падчас Свята беларускага пісьменства ў Быхаве на розных імпрэзах можна будзе не толькі сустрэцца з любімымі аўтарамі, атрымаць іх аўтографы, але і пазнаёміцца з новымі кнігамі, што пабачылі свет у вядучых беларускіх выдавецтвах. Так, гасцей і жыхароў горада ў гэты дзень будуць чакаць у павільёне «Сучасная беларуская кніга». Менавіта на яго пляцоўцы ў розных фарматах пройдуць прэзентацыі самых яркіх выданняў апошняга часу. Якія гэта кнігі і чаму менавіта іх абралі выдаўцы для прадстаўлення на свяце, мы распавядзём чытачам «Кніжнага свету».



## ІНВЕСТЫЦЫІ Ў БЕЛАРУСЬ

Упершыню гэты альбом быў прадстаўлены сёлета падчас Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. Тады выдавецтва атрымала толькі першыя асобнікі накладу. Але пазней ніякіх буйных прэзентацый праекта не было, таму цалкам лагічна, што самы буйны і значны сёлетні праект, самая вялікая кніга, што пабачыла свет у гэтым годзе ў выдавецтве «Беларусь», будзе прадстаўлена падчас Свята беларускага пісьменства. Сімвалічна таксама, што менавіта гэтая прэзентацыя распачне праграму на пляцоўцы павільёна «Сучасная беларуская кніга». Так, выдавецтва «Беларусь» прадставіць у Быхаве вялікі фотаальбом «Беларусь».




— Гэта не проста энцыклапедыя, мэта якой — паказаць усю нашу краіну, — распавядае вядучы рэдактар выдавецтва «Беларусь» Юлія Аверчанка. — Падчас падрыхтоўкі выдання мы імкнуліся паказаць самыя прыгожыя, славутыя мясціны нашай краіны. Тут адметная таксама і структура: раздзелы адпавядаюць не адміністратыўным адзінкам, абласцям, а прызнаным прыродным рэгіёнам. Гэта Палессе, Падняпроўе, Панямонне, Паазер'е, Падзвінне, Цэнтральная Беларусь. У альбоме асаблівая ўвага звернута на прыгожыя мясціны, помнікі архітэктуры, асоб, вядомых і за межамі Беларусі. Мы не паказвалі заводы і фабрыкі, кніга мае хутчэй лірычны настрой, нават тэкст яе я назвала б амаль фэнтэзійным, паўмастацкім, ён напоўнены легендамі, паданнямі. І гэта нядзіўна, бо яго аўтар — вядомы гісторык Сяргей Тарасаў.

— Мы даўно хацелі выпусціць альбом, які распавёў бы не пра нейкую асобную частку Беларусі. Наша мэта была ахапіць усю краіну, — зазначае вядучы рэдактар выдавецтва «Беларусь» Анжэла Самасейка. — Кніга выйшла на трох мовах — беларускай, рускай і англійскай. Гэта альбом прадстаўнічага характару, і мы разлічваем на тое, што ён будзе карыстацца попытам як унутры краіны, так і за мяжой. Кнігу ўжо набывалі для прадстаўнічых мэтаў «Беларусбанк», шэраг міністэрстваў і буйных арганізацый. Гэта годны падарунак. Значны і тэкст кнігі, і ілюстрацыі, бо ў альбоме выкарыстаны работы вядомых беларускіх фотамастакоў: Анатоля Клешчука, Віктара Ласмінскага, Анатоля Дрыбаса, Ігара Бышнёва, Ігара Супранёнка, Аляксандра Лабады. У цэлым такія буйныя выдавецкія праекты садзейнічаюць папулярызацыі нашай краіны за мяжой, больш шырокаму інфармаванню пра беларускі брэнд. Мы разлічваем у першую чаргу на тое, што гэты альбом будуць набываць госці нашай краіны, замежныя дэлегацыі. Усё гэта ў выніку, будзе садзейнічаць таму, што пра нашу краіну даведаюцца больш, і новыя звесткі прывабяць сюды больш турыстаў. Гэта пэўнага кшталту інвестыцыі, нават можна сказаць, у эканоміку нашай краіны.

## КРОПКА НА ЛІТАРАТУРНАЙ КАРЦЕ

Добрай традыцыяй выдавецтва «Мастацкая літаратура» стаў выпуск напярэдадні Свята беларускага пісьменства кніг серыі «Беларусь літаратурная». Кожны год новым «прыпынкам» укладальнікаў чарговай кнігі становіцца раён — места правядзення свята. Вось і сёлета «Мастацкая літаратура» прадставіць шырокай публіцы новае выданне — кнігу «У Дняпра на магутным плячы. Быхаўшчына літаратурная».

У якасці ўкладальніка кнігі выступіў вядомы пісьменнік Міхась Пазнякоў. Падчас прэзентацыі выдання ў Быхаве Міхась Паўлавіч распавядзе пра гісторыю стварэння кнігі, прачытае вершы, прысвечаныя быхаўскай зямлі, а таксама дасць слова аўтарам-землякам. Адметна, што адзін з самых вялікіх раёнаў Беларусі — Быхаўшчына — досыць багаты і на літаратурныя таленты. Так, у кнігу «У Дняпра на магутным плячы» ўвайшлі паэтычныя, празаічныя і публіцыстычныя творы многіх вядомых аўтараў. Іх лёсы цесна знітаваныя з гэтай зямлёй. Згадаем толькі некаторых: Мялецій Смятрыцкі, Лаўрэнцій Зізаній, Ян Аношка, Барыс Стральцоў, Міхась Пазнякоў, Вячаслаў Рагойша, Міхась Мушынскі, Змітрок Марозаў, Таццяна Мушынская ды іншыя выдатныя творцы.




На пляцоўцы павільёна «Сучасная беларуская кніга» госці свята таксама змогуць наведаць кароткія прэзентацыі іншых кніг «Мастацкай літаратуры». Гэта серыя «Жыццё знакамітых людзей Беларусі», выданне «Уладзімір Караткевіч. Збор твораў у 25-ці тамах» (з чацвёртым томам чытачоў пазнаёміць даследчык творчасці У. Караткевіча Анатоль Верабей). Вядомыя аўтары Казімір Камейша і Алесь Марціновіч прадставяць свае новыя кнігі, а чарговае выданне серыі «Вера. Надзея. Любоў» прэзентуе галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Віктар Шніп. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Уладзімір Ліпскі падчас свята прадставіць кнігу перакладаў расійскага пісьменніка АльбертаЛіханава «Трывожныя аповесці».

## РАЗЫНКА — У ФАКСІМІЛЕ



Да чарговага Свята беларускага пісьменства выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» падрыхтавала сапраўдны сюрпрыз — насамрэч унікальную кнігу. Гэта факсімільнае выданне Баркулабаўскага летапісу, адзіны экзэмпляр якога захаваўся ў Маскве, у Дзяржаўным гістарычным музеі. А пакольку месца стварэння летапісу — Баркалабава — знаходзіцца недалёка ад Быхава, то менавіта жыхары гэтага горада з'яўляюцца самымі верагоднымі патэнцыйнымі чытачамі кнігі. Цікава ж даведацца, што адбывалася ў гэтых мясцінах каля 500 гадоў таму!

— Гэта вельмі цікавы, нават унікальны летапіс, — распавядае галоўны рэдактар выдавецтва «БелЭн імя П. Броўкі» Ларыса Языковіч. — Звесткі ў ім падаюцца пераважна не з пункту гледжання магнатаў, а праз прызму бачання простых насельнікаў гэтых земляў. Дагэтуль ідуць спрэчкі, хто быў аўтарам летапісу, магчыма, гэта мясцовы святар Філіповіч. На карысць версіі сведчыць той факт, што ў дакуменце прадстаўлены вельмі падрабязныя звесткі з жыцця зямель: адметнасці правядзення сельскагаспадарчых работ, кошт на тавары, надвор'е. Нават лічыцца, што гэта першы змястоўны аналітычны матэрыял пра стан надвор'я 500 гадоў таму на тэрыторыі Беларусі!

Выданне складаецца з дзвюх частак. Першая — само факсіміле летапісу, якое прадстаўляе гэты каштоўны дакумент у такім выглядзе, як ён захаваўся да нашага часу, другая ж кніга змяшчае аналітычны артыкул пра Баркулабаўскі летапіс (яго аўтар — намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алесь Суша), затым ідзе транслітарацыя тэксту сучаснымі беларускімі літарамі, тут жа можна знайсці рэпрынтную копію прадмовы Мітрафана Доўнар-Запольскага да кнігі «Баркулабаўскі летапіс» (Кіеў, 1908) і рэпрынтную копію пасляслоўя Еўдакіма Раманава да віленскага выдання 1910 года.

— Атрымаўся шматгранны, глыбокі і каштоўны праект, — зазначае Ларыса Уладзіміраўна. — Апроч новага выдання, мы прадставім і іншыя кнігі, што пабачылі свет у нашым выдавецтве. Гэта трэці том энцыклапедыі «Культура Беларусі», выданне «Тастаменты шляхты і мяшчан Беларусі другой паловы XVI ст», энцыклапедыя «Рэгіёны Беларусі. Гомельская вобласць». Прывязем таксама і серыю «Энцыклапедыя рарытэтаў», а менавіта кнігі «Беларусы Масквы. XVI ст.», «Ісак Сербаў. Альбом фотаздымкаў 1911 — 1913 гадоў», а таксама іншыя яркія праекты, рэалізаваныя цягам 2013 года.

## СТАЎКА НА ГУМАР!

У межах святкавання свайго 20-годдзя выдавецтва «Чатыры чвэрці» таксама прадставіць адметныя кнігі, што выйшлі тут сёлета. Гэта «Вяртанне» Мікалая Леўчанкі, а таксама кніга Міхася Слівы «Журавіны па знаёмстве».

— Мікола Леўчанка — тутэйшы, жыве і працуе ў Быхаве. Яго кнігу мы рыхтавалі адмыслова да Дня пісьменства, каб прэзентаваць у мясцінах, дзе аўтара добра ведаюць, — тлумачыць менавіта такі выбар кніг для прадстаўлення ў Быхаве рэдактар выдавецтва «Чатыры чвэрці» Наталля Карасёва. — Творы пісьменніка Міхася Слівы — адпавядаюць творам




Міколы Леўчанкі па настроі і тым уражанні, якое яны робяць на чытача. Да таго ж, кнігу М. Слівы склалі гумарэскі і сатырычныя творы, а ў Міколы Леўчанкі ў кнізе таксама ёсць гумар. Падумалася, што гэтыя дзве кнігі арганічна будзе прадставіць разам, а іх аўтары дапамогуць стварыць цудоўны настрой. Так, падчас працы пляцоўкі «Сучасная беларуская кніга» галоўны рэдактар быхаўскай раённай газеты «Маяк Прыдняпроўя» Мікола Леўчанка сам прадставіць сваю кнігу. Удзельнікам гэтай літаратурна-гумарыстычнай імпрэзы стане і беларускі пісьменнік-гумарыст, празаік, перакладчык, публіцыст Міхась Сліва.

## ПРЫЙСЦІ, КАБ НЕ ЗНІКНУЦЬ

Кнігу паэзіі Алеся Пісьмянкова «Не знікай», што выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда», прадставіць публіцы галоўны рэдактар часопіса «Полымя» паэт Мікола Мятліцкі.




— Алесь Пісьмянкоў — вельмі шчыры, натхнёны, пранікнёны паэт, я вельмі ўсцешаны тым, што на Свяце беларускага пісьменства адбудзецца прэзентацыя яго кнігі, — разважае Мікола Мятліцкі напярэдадні прэзентацыі. — Значыць, паэт будзе побач з намі, а свята пісьменства нам дапаможа яшчэ раз прыйсці да крыніцы ягонай паэзіі. Гаварыць пра постаць Алеся Пісьмянкова надзвычай цяжка. Ён мог быць. І яго кніга «Не знікай», бадай, у адным шэрагу з караткевічаўскай «Быў. Ёсць. Буду». Пайсці з жыцця ў 47 мудрым паэтам — надзвычай нялёгкі абавязак перад часам і перад сабой. Я ведаў Алеся Пісьмянкова з яго студэнцкага юнацтва, з тых «Узлётаўскіх» пасядженняў, калі мы збіраліся разам пад крылом незабыўнага Алега Лойкі і думалі пра тое, якой павінна быць сучасная паэзія. Мне вельмі прыемна адзначыць, што Алесь Пісьмянкоў вырас у сапраўднага майстра беларускага слова, ён знайшоў і той гістарызм вялізнай глыбіні, і тую пачуццёвасць, якая расцвітае свежай квеценню першароснага саду, і мужную сціпласць беларуса, якая не дазваляла яму разгарнуцца ў шырокія, магчыма, нават нудныя вершы. Ён быў імпульсіўны, як сам час, у які жыў. Зборнік «Не знікай» — запаветная кніга, якая ілюструе сабой аблічча цэлай эпохі, бо паэты прыходзяць на зямлю, каб не знікаць, а доўжыцца ў часе для наступных пакаленняў. І я ўпэўнены, што Алесь Пісьмянкоў будзе сугучны сэрцам беларусаў вельмі доўга на гэтай зямлі.

**Чэслава ПАЛУЯН**

# Гений из Винчи

Максим БАРЫШНИКОВ




Кто такой гений? Одно из возможных определений — это человек с необычайно высокими интеллектуальными способностями, который может совершить переворот в творчестве или сознании людей. Если бы кого-нибудь из читателей попросили привести пример гения, многие выбрали бы личность Леонардо да Винчи. Ведь он проявил себя как художник (живописец, скульптор и архитектор), учёный (анатом и естествоиспытатель), писатель и изобретатель.

Леонардо родился в городке Винчи недалеко от Флоренции. На это указывали и его фамилия, ведь «да Винчи» означает «(родом) из Винчи». Леонардо был незаконнорождённым сыном нотариуса. Впрочем, в Италии к этому относились весьма снисходительно. Большая часть жизни мастера прошла именно в Италии — во Флоренции и Милане. Лишь в последние годы Леонардо, приняв приглашение французского короля Франциска I, поселился в его замке, получив официальное звание первого королевского художника, инженера и архитектора, а также внушительную годовую ренту.

Наверное, в большей степени Леонардо известен нам как художник (автор картин «Тайная вечеря» и «Джоконда») и учёный. К числу его изобретений, как реальных, так и приписываемых, относят парашют, велосипед, катапульту, робота, танк, летательный аппарат, автомобиль, прожектор, скорострельное оружие…

Однако не все обращают внимание на такую грань гения Леонардо, как занятие литературой. Его богатое наследие в этой сфере дошло до наших дней в виде рукописей. Широкой публике они стали известны лишь в XIX — XX веках. Но только несколько десятилетий тому назад свет увидели леонардовские сказки и легенды. С ними вы можете познакомиться в книге **«Сказки и легенды»**.

Для любителя эпохи Возрождения они представляют интерес «благодаря сжатому, энергичному слогу и необычайно чистому языку. Живя в эпоху расцвета гуманизма, когда итальянский язык считался второстепенным по сравнению с латынью, Леонардо да Винчи (…) и писал, как говорил; его проза поэтому — образец разговорного языка интеллигенции XV века, и это уберегло её в целом от искусственности и велеречивости, присущей прозе гуманистов».

Впрочем, книга будет интересна любому читателю. Парадоксально, но в ней почти не встретишь чудес и волшебства. Как пишет Александр Махов, «с традиционными сказками её роднит лишь то, что действующие в ней герои — звери, птицы, рыбы, насекомые, растения, камни и прочие неодушевлённые предметы — наделены даром речи и способностью оценивать свои и чужие поступки, которые ничем не отличаются от поступков людей».

Хотя в окружающей действительности Леонардо видел немало зла и несправедливости, он не переносит свою горечь на мир животных. Поэтому «в его сказках даже хищные звери и птицы проявляют снисхождение к слабым и обездоленным. Подлинным благородством веет от таких сочинений, как «Сокол и щеглята», «Великодушие», «Лев и ягнёнок». В то же время автор полон неприязни к коварным паукам, змеям, крабам и прочим тварям, которые ничем не брезгуют, лишь бы насытить свою алчную утробу. Все его симпатии неизменно на стороне тех, кто честен, скромен и трудолюбив, а уж лгунам, хвастунам и тунеядцам нет от него никакой пощады».

# Гэтсби наших дней

Данила АРТИМОВИЧ




В литературоведении давно закрепился термин «потерянное поколение». К нему относят тех писателей, молодость которых пришлась на события Первой мировой войны, изменившие их судьбу. Традиционно к «потерянному поколению» относят Эриха Марию Ремарка, Эрнеста Хемингуэя, Анри Барбюса и других выдающихся писателей. К этой плеяде можно отнести и Фрэнсиса Скотта Фицджеральда.

Уроженец штата Миннесота, он вырос в обеспеченной ирландской католической семье. Своё имя будущий писатель получил в честь двоюродного прадеда Фрэнсиса Скотта Ки, являвшегося автором текста государственного гимна США «Знамя, усыпанное звёздами». В молодости Фицджеральд обучался в престижных учебных заведениях, в том числе в Принстонском университете. Но в 1917 году, незадолго до выпускных экзаменов, ушёл добровольцем в армию, где дослужился до должности адъютанта при командире пехотной бригады.

Вскоре после демобилизации Фицджеральд познакомился с красавицей Зельдой Сейр, которую полюбил. Поскольку её семья была против их брака, молодому человеку ничего не оставалось, как стать известным писателем и тем самым заработать денег. В 1920-м вышел его роман «По ту сторону рая», который принёс ему успех, а вскоре и руку любимой.

Их судьба сложилась трагично. Зельда тяжело заболела и постепенно потеряла рассудок. У Скотта на фоне этих событий начался творческий кризис. Он стал злоупотреблять алкоголем. Неудачей закончилась попытка писателя покорить Голливуд в качестве сценариста. В конце жизни он признался, что представляет собой «разбитую тарелку»…

Но всё же в жизни этой четы было и немало счастья, светлых минут, припавших на 1920-е годы. Именно тогда написаны многие его рассказы. А в 1924-м семья уехала в Европу. В Париже Фицджеральд написал роман **«Великий Гэтсби»** (1925), ставший лучшим его произведением. Как ни странно, несмотря на инсценировку на Бродвее и экранизацию в Голливуде роман первоначально не был оценён современниками. Настоящая слава пришла уже в 1950-е годы. Одним из её проявлений стали многочисленные экранизации романа. В последней, которая появилась на экранах в этом году, главную роль сыграл Леонардо Ди Каприо.

Действие произведения происходит в 1920-е годы недалеко от Нью-Йорка, на «золотом побережье» Лонг-Айленда, где находятся виллы богачей. В ту пору Америка вступила в полосу процветания и стала самой богатой страной мира. Но действовавший тогда «сухой закон» дал толчок к развитию организованной преступности.

Характерно, что способ, с помощью которого главный герой романа Джей Гэтсби собрал своё богатство, никому не известен. Скорее всего, он был связан с людьми, нечистыми на руку. В своём гигантском поместье Гэтсби устраивает весёлые вечеринки, которые каждую субботу посещают сотни людей, большинство из них не знакомы с хозяином. Гэтсби надеется, что в их числе рано или поздно окажется Дэзи, которую он любит.

Впрочем, в душе главного героя борются противоположные силы. Одна из них зовёт героя правильно распорядиться своими способностями и жизненной энергией. Другая манит погоней за богатством и испорченной женщиной. Какой же путь выберет Гэтсби?

# Нобель, мыши и жемчужина

Денис МАРТИНОВИЧ

Что является главным критерием для успеха в литературе? Многомиллионные тиражи книг? Но ведь наряду с произведениями классиков таким же, если не большим, спросом пользуется массовое чтиво — женские романы и детективы. Может быть, популярность и общественное признание среди современников? Однако, многие писатели пользовались фантастической популярностью при жизни, а вскоре после смерти были забыты. Впрочем, существует ещё один критерий — Нобелевская премия. Да, он тоже далёк от идеала. Но всё-таки среди обладателей премии представлено значительное число классиков литературы. Среди них — американец Джон Стейнбек, удостоенный награды в 1962-м году.




Уроженец Калифорнии, Дж. Стейнбек прожил длинную и богатую на события жизнь. Детство будущего писателя прошло в маленьком городке, расположенном среди плодородных земель. Работая на ранчо, он хорошо изучил как природу того края (действие многих произведений происходит как раз в Калифорнии), так и нравы местных жителей. После окончания школы учился с перерывами в Стэнфордском университете, который так и не закончил, пытался сделать карьеру в Нью-Йорке, работал на родине гидом, сторожем на рыбоводном заводе. Участвовал в качестве военного корреспондента во Второй мировой войне, где был ранен. В 1947-м совершил поездку в СССР, посетив Москву, Киев, Сталинград, Тбилиси и Батуми. Был трижды женат.

Но, разумеется, самое главное, он писал прекрасные произведения, ставшие классикой мировой литературы. Два из них представлены в новом сборнике. Повесть **«Мыши и люди»** была опубликована в 1937 году. Любопытно, что название взято из стихотворения Роберта Бёрнса «К полевой мыши, разорённой моим плугом». В повести рассказывается о трагической истории двух работяг, Джорджа и Ленни, путешествующих во время Великой депрессии по Калифорнии в поисках работы. Первый герой является олицетворением ума и осторожности, второй — богатырской, но грубой силы, а также умственной отсталости. Казалось бы, Ленни любит природу и всех живых существ, особенно маленьких, и прежде всего — мышей. Но в итоге именно он становится нечаянной причиной увечья Кёрли, сына хозяина фермы, и убийства его жены. Преследователи намерены линчевать Ленни. Перед его другом Джорджем стоит непростой выбор…

Действие повести **«Жемчужина»** также происходит в Калифорнии. Только на этот раз в маленьком посёлке на берегу залива. Главный герой, бедный ловец жемчуга Кино, не может прокормить свою жену Хуану и маленького сына Койотито. У него нет денег, чтобы заплатить врачу, когда Койотито кусает скорпион. Но в тот же день Кино находит на дне моря огромную жемчужину, «не уступающую в совершенстве самой луне». Казалось бы, теперь герои могут зажить совершенно другой жизнью. Однако принесёт ли жемчужина счастье?

Как писал известный литературный критик Алексей Зверев, «Стейнбек был художником, воссоздающим прежде всего социальные явления — крупные и знаменательные. Верность этому призванию он сохранил до конца жизни, но в истории литературы остался всё-таки главным образом как писатель 30-х гг., даже как один из символов того яркого и трагического времени».

# «Таджыкам цікавая беларуская літаратура!»

Культура — найлепшая дыпламатыя. Сённяшняя размова — пра тыя рэальныя крокі, якія робяцца ў развіцці літаратурных стасункаў. Апошнімі гадамі ў Мінску выдадзеная кніга таджыкскіх аўтараў Ато Хамдама і Леаніда Чыгрына «Подзвіг Эмамалі Рахмона» ў перакладзе на беларускую мову. Творы беларускіх пісьменнікаў таксама выйшлі ў свет у перакладзе на таджыкскую. Гэта кнігі Міколы Мятліцкага, Георгія Марчука, Юрыя Сапажкова. Пабачылі свет два калектыўныя зборнікі: прозы і паэзіі. Пра тое, наколькі цікавая таджыкам беларуская творчая прастора і каго з пісьменнікаў яны ведаюць і чытаюць, мы гутарым з Надзвычайным і Паўнамоцным паслом Таджыкістана ў Рэспубліцы Беларусь Казідаўлатам Каімдодавым.



— Трэба адзначыць, што за савецкім часам кнігі беларускіх пісьменнікаў друкаваліся на рускай мове і перакладаліся на таджыкскую рэгулярна. Нашыя літаратары ўвесь час набывалі новыя магчымасці для ўзаемаабагачэння. Агульная атмасфера мастацтва, павелічэнне колькасці перакладаў, творчыя сустрэчы падчас правядзення літаратурных дзён садзейнічалі збліжэнню двух народаў. Таджыкскі чытач дзякуючы перакладам знаёміўся з творчасцю Янкі Купалы, Максіма Танка, Кастуся Кірэенкі, Аркадзя Куляшова, Пятра Глебкі, Петруся Броўкі, Еўдакіі Лось і дзясяткаў іншых.

*«Тэмы, якія раскрываюць таджыкскія пісьменнікі ў кнігах, досыць разнапланавыя. Гэта і ўвага да гісторыі свайго народа, і драматычныя падзеі нядаўняга мінулага, і актуальныя праблемы сённяшняга дня. Нашыя літаратары, вобразна кажучы, трымаюць руку на пульсе часу і ў гэтым плане адпавядаюць сваёй ролі.*

Бясспрэчна, цяпер гэтыя традыцыі паступова адраджаюцца. У першым дзесяцігоддзі ХХІ стагоддзя дзякуючы сустрэчам і перакладам у Таджыкістане сталі вядомыя імёны многіх беларускіх літаратараў. Сярод іх Мікалай Чаргінец, Георгій Марчук, Алесь Карлюкевіч, Людміла Рублеўская, Віктар Шніп, Алесь Бадак, Раіса Баравікова, Андрэй Федарэнка, Анатоль Казлоў, Дзмітрый Марозаў, Янка Сіпакоў, Алесь Наварыч, Іван Карэнда, Міхась Башлакоў, Сяргей Трахімёнак, Уладзімір Мазго, Віктар Гардзей, Анатоль Зэкаў, Навум Гальпяровіч, Уладзімір Марук, Валянцін Лукша, Уладзімір Карызна, Алег Салтук, Міхась Пазнякоў, Мікола Мятліцкі, Генрых Далідовіч, Васіль Ткачоў, Андрэй Курэйчык, Ніна Мацяш, Валянціна Паліканіна і інш.

*«Дзверы нашага пасольства заўсёды адчыненыя для суайчыннікаў, роўна як і для тых, каму цікавы Таджыкістан, у каго ёсць праекты, якія спрыяюць сяброўству.*

А ці ведаюць у Беларусі кнігі вашага земляка Леаніда Чыгрына, які жыве ў Таджыкістане і ў суаўтарстве з Ато Хамдамам напісаў больш як 20 гістарычных раманаў? Ён вядомы ў Кітаі, Канадзе, Харватыі, Іране і іншых краінах. Таджыкам цікавая беларуская літаратура, а беларусам таджыкская?

**— Бясспрэчна, некалькі інтэрв'ю з Ато Хамдамам былі надрукаваныя ў «ЛіМе», ведаем і пра поспехі Леаніда Чыгрына. Аднак хочацца больш даведацца пра тое, што цяпер хвалюе таджыкскіх літаратараў. Якія тэмы ўзнімаюць яны ў сваёй творчасці? Наколькі ўплывовыя ў краіне літаратурныя суполкі?**

— Тэмы, якія раскрываюць таджыкскія пісьменнікі ў кнігах, досыць разнапланавыя. Гэта і ўвага да гісторыі свайго народа, і драматычныя падзеі нядаўняга мінулага, і актуальныя праблемы сённяшняга дня. Нашыя літаратары, вобразна кажучы, трымаюць руку на пульсе часу і ў гэтым плане адпавядаюць сваёй ролі.

**— Якія захады па падтрымцы кнігавыдання здзяйсняюцца ў вашай краіне?**

— Дзяржаўныя выдавецтвы фінансуюцца з дзяржаўнага бюджэту, таксама развіваюцца прыватныя выдавецкія структуры.

Акрамя таго, дзяржава надае вялікую ўвагу выданню падручнікаў, развіццю творчасці маладых таленавітых літаратараў.

**— Як падтрымліваецца цікавасць да чытання?**

— Цікавымі творамі. Зразумела, трэба, каб пра іх даведаліся чытачы. Таму пра навінкі літаратуры паведамляецца ў сродках масавай інфармацыі.

Дзяржава прымае меры і стварае ўмовы для падтрымання цікавасці чытачоў, у прыватнасці, з дапамогай развіцця бібліятэчнай сеткі. Два гады таму ў Душанбэ здадзена ў эксплуатацыю новае памяшканне Нацыянальнай бібліятэкі Таджыкістана, дзе створаны ўсе неабходныя ўмовы для сучаснага чытача. Узмацняецца праца па паляпшэнні дзейнасці бібліятэк у раёнах і сёлах.

Акрамя таго, пісьменнікі і паэты выязджаюць у гарады і раёны краіны, дзе сустракаюцца з чытачамі, інфармуюць пра дзейнасць Саюза пісьменнікаў рэспублікі, распавядаюць пра творчасць, ладзяць літаратурныя вечарыны.

**— У нашай краіне добра вядомае імя Маргарыты Касымавай, заслужанага дзеяча мастацтваў Таджыкістана. На кінастудыі «Беларусьфільм» таленавіты рэжысёр стварыла шмат кінастужак, сярод якіх «Сын за бацьку» (разам з М. Яроменкам), «Маленькі баец», «Зорка Венера» і інш. Якім чынам падтрымліваеце адносіны з суайчыннікамі, якія жывуць у Беларусі?**

— Мы ганарымся тым, што ў вас жыве і актыўна працуе наша суайчынніца Маргарыта Наімаўна, якую добра ведаюць у нашай краіне. Яна заслужаны артыст Таджыкістана, яе фільмы, створаныя ў розныя гады на радзіме, уваходзяць у залаты фонд такжыкскага кіно.

Неабходна адзначыць, што нашыя суайчыннікі, якія цяпер жывуць у Беларусі, апынуліся тут у розныя перыяды. Некаторыя нарадзіліся і выраслі ў Таджыкістане, а затым лёс прывёў іх сюды, іншыя пэўны час жылі і працавалі ў нашай рэспубліцы. Сярод знаных землякоў можна назваць такіх асоб, як доктар фізіка-матэматычных навук прафесар Мустафо Асімі, скульптар Аляксандр Камардзін, кінааператар Аляксандр Пестралобаў, мастак з Брэста Дод Самадаў.

Мы лічым сваімі сям'ю народнага артыста БССР і народнага артыста СССР Расціслава Янкоўскага, старэйшага брата вядомага акцёра Алега Янкоўскага. Яго свядомае жыццё і — галоўнае — творчы шлях пачаліся ў Таджыкістане. Расціслаў Янкоўскі ў Ленінабадзе, цяперашнім Худжандзе, скончыў тэатральную студыю, працаваў у Ленінабадскім тэатры. Ён у гэтым горадзе стаў чэмпіёнам Таджыкістана па боксе сярод юнакоў, там падчас спаборніцтваў сустрэўся і з будучай жонкай Нінай Чэйшвілі, у іх нарадзіўся сын Ігар. У 1957 годзе Расціслаў Іванавіч разам з сям'ёй пераехаў у Мінск, і з тых часоў працуе ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя М. Горкага.

Таджыкская дыяспара мае сваю грамадскую арганізацыю — Міжнароднае грамадскае аб'яднанне «Саманіён», якое працуе з суайчыннікамі, па меры неабходнасці праводзіць культурныя і спартыўныя мерапрыемствы. Функцыянуе таксама жаночы клуб. Апошнімі гадамі павялічылася колькасць студэнтаў, якія праходзяць навучанне ў ВНУ Беларусі. Бясспрэчна, пасольства падтрымлівае добрыя стасункі з суайчыннікамі, праводзіць сустрэчы, грамадзянам рэспублікі аказвае консульскія паслугі.

Дзверы нашага пасольства заўсёды адчыненыя для суайчыннікаў, роўна як і для тых, каму цікавы Таджыкістан, у каго ёсць праекты, якія спрыяюць сяброўству. Што ж да літаратуры, то яшчэ раз падкрэслю: кніга, напісанае слова заўсёды былі трывалай асновай у палітыцы, эканоміцы, у дасягненнях кожнай краіны, і таму праекты па выданні кніг будуць прадоўжаны.

**Ірына ТУЛУПАВА**

Празаік, драматург, публіцыст, перакладчык беларускай прозы, даследчык гісторыі беларуска-таджыкскіх літаратурных сувязей, член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Спрыяе выданню твораў беларускіх аўтараў на таджыкскай мове.

## Ато ХАМДАМ

# Розныя ацэнкі



У нядзелю ледзь толькі фотакарэспандэнт мясцовай газеты Амрыддзін Мусоеў з'явіўся ў сваім двары, як яго абкружылі суседзі.

— Ну ты і малайчына! — выгукнуў адзін, ухвальна ківаючы.

— Лепш не бывае! — падхапіў іншы.

— На ўсе рукі майстар! — пачулася з іншага боку.

Амрыддзін збянтэжана агледзеўся і пабачыў у руках суседзяў свежы нумар сваёй газеты. Малады журналіст прыняў самавіты выгляд. Рэдкі нумар выходзіў без ягоных здымкаў.

«Пэўна, адразу некалькі фатаграфій далі. Што ж, у майстэрстве мне не адмовіш», — самазадаволена падумаў ён. Але ўслых прамовіў іншае.

— Стараюся. Калі хочаце, магу да крамы збегаць. Абмыем поспех.

— Маеш рацыю, поспех, — пагадзіліся з ім. — Адразу пяць вершаў, а заўтра, бач, і паэму выдасі.

— Якіх вершаў? — здзівіўся Амрыддзін.

— От, які сціплы...

— Сапраўдны талент заўжды трымаецца ў цені...

— Спадарства, не будзем мучыць нашага паэта, — умяшаўся пажылы настаўнік літаратуры. — Давайце я агучу ягоныя творы.

Па меры чытання твары ў слухачоў выцягваліся.

— Ну і ну, — пачуўся голас. — Ды я такое магу левай нагой напісаць.

— Нямытай, — падхапіў другі.

— Толькі паперу ганьбіць...

— Трэба патэлефанаваць рэдактару, каб спыніў гэтага рыфмаплёта...

— Толькі грошы дарма аддалі...

— Ды во што, павар'яцелі? — не стрымаўся Амрыддзін. — Якія вершы? Які рэдактар? Ці ж вы не бачылі мяне з фотаапаратам?

Але яго ніхто не слухаў. Суседзі пакідалі яму пад ногі газеты і дэманстратыўна разышліся, не слухаючы апраўданняў.

Амрыддзін падняў газету. На апошняй паласе былі вершы рэдактара. Па дзіўным супадзенні яго псеўданім адпавядаў прозвішчу і імю маладога фотакара. Рэдактар лічыў сябе вялікім паэтам і часцяком упрыгожваў палосы выдання ўласнымі шэдэўрамі.

Амрыддзін прабегся вачыма па радках і пачухаў патыліцу. Без каментароў.

У панядзелак раніцай з самым рашучым выглядам ён зайшоў у кабінет рэдактара. У думках ён выбіраў самыя рэзкія словы, якія кіне ў твар вершаплёту. А там — гары яно гарам.

Супрацоўнікі якраз сабраліся на лятучку.

— Як заўжды, чарговы нумар нашай газеты цікавы і змястоўны, — пачаў загадчык аддзела сельскага жыцця. — Ёсць што пачытаць і пра што паразважаць. Аздобай нумара сталі вершы. Іх немагчыма чытаць без хвалявання і нават слёз...

— Так-так, — загаманілі прысутныя. — Гэта вяршыня паэтычнай творчасці...

— На ўзроўні Рудакі...

— Сапраўдны геній, тут не адмовіш...

— Хаям бы пазайздросціў...

— Можна ўявіць, з якім захапленнем сустрэлі іх нашы чытачы...

Рэдактар шчасліва ўсміхаўся. Нечакана ён сустрэў позірк Амрыддзіна. Той то чырванеў, то бляднеў, нагадваючы вулкан перад вывяржэннем.

— Ну, а што думае наш малады журналіст? Як ён ацэньвае творчасць старэйшага таварыша?

Амрыддзін парывіста ўзняўся. Усе глядзелі на яго з цікаўнасцю. І былая рашучасць выпарылася.

— Насамрэч, — прамармытаў Амрыддзін, — у мяне проста няма слоў. Вы б чулі, што казалі пра гэтыя вершы ў нашым двары.

Усе дружна запляскалі.

**Пераклад Таццяны СІВЕЦ**

# Чым складаней, тым цікавей

**У вас, напэўна, ёсць любімая кніга. Сто разоў пераглегджаная, перачытаная, у якой цудоўна, як па Чэхаву, усё: і вокладка, і шрыфт, і змест. І любоўю гэтай яна абавязаная двум людзям, адзін з якіх — пісьменнік, а другі, звычайна незаўважны, але значны не меней — кніжны дызайнер. І калі вы знаёмыя з серыяй альбомаў Уладзіміра Ліхадзедава «У пошуках страчанага», кнігамі Алеся Бадака «Усім пра ўсё», а цяпер яшчэ і выданнем «Быхаўшчына. Дыханне вякоў», то абавязкова захочаце пазнаёміцца з Георгіем Шаблюком — чалавекам, які зрабіў гэтыя кнігі такімі, якімі вы іх любіце. Кніжным дызайнам спадар Георгій займаецца з 2006 года. За гэты час ён даў твар больш як дзвюццаці кнігам.**

— Але я не згаджаюся на ўсе прапановы запар. Здараецца, што чытаць кнігу цікава, але рабіць яе — не надта, бо ёсць адно толькі тэкст. Мне даспадобы праца над гістарычнымі альбомамі, як, напрыклад, «Мінск музейны», які быў адной з першых маіх работ. А калі тэма і не гістарычная, то павінна хапаць ілюстрацый, каб сапраўды было з чым папрацаваць.

**— Як вы прыйшлі да кніжнага дызайну?**

— Пачынаў з дызайну паліграфічнай прадукцыі: часопісы, газеты, часам рэкламныя праспекты і г. д. І неяк Дом прэсы прапанаваў зрабіць кнігу пра музеі Мінска. Я пагадзіўся, бо даўно хацеў паспрабаваць вялікі праект.

**— Калі трэба растлумачыць, хто такі кніжны дызайнер, вы скажаце…**

— Чалавек, які здольны аб'яднаць матэрыял, сабраны аўтарам, і падаць яго так, каб кніга нікога не пакінула абыякавым.

**— Што звычайна самае складанае ў вашай працы? Які самы любімы «этап» у стварэнні кнігі?**

— Для мяне самае складанае — гэта ўнясенне карэктарскіх правак. А любімы этап… Іх хутчэй два. Першы — пачатак працы, калі прыдумваеш арыгінал-макет. Другі — здача ў тыпаграфію.



*Ілюстрацыя да кнігі «Быхаўшчына. Дыханне вякоў».*

**— А як працавалася над зусім новым выданнем — «Быхаўшчына. Дыханне вякоў», што прэзентуецца на Дні беларускага пісьменства?**

— О, я вельмі люблю спазнаваць нешта новае. Ні разу ў Быхаве не быў і нават уяўлення не меў, што гэта за горад, якія там людзі… А цяпер пэўнае разуменне з'явілася. Даведаўся цікавыя рэчы пра замак, музей, археалагічныя раскопкі, сінагогу, якую хутка будуць рэстаўрыраваць. Да таго ж, з фотамастаком Анатолем Клешчуком, які адзін здымаў увесь матэрыял, у нас адразу наладзіліся выдатныя стасункі. Галоўнае, што замоўцы засталіся задаволенымі.

**— Як доўга — ці як хутка — стваралася кніга пра Быхаў?**

— Хутка! Не хацеў бы выхваляцца, але гэта адна з маіх пераваг — хуткасць. З улікам усіх афіцыйных момантаў кнігу здалі за паўтара месяца.

**— Цікавая дэталь асабліва зачапіла вока. На адной старонцы ў кнізе змясцілі назвы ўсіх населеных пунктаў — прычым на дарожных знаках. Гэта ваша ідэя?**

— Па вялікім рахунку, ідэя ўзнікла ў Анатоля Клешчука. Калі ён ездзіў па Быхаўскім раёне, фатаграфаваў кожны такі знак. Адзіная цяжкасць — падабраць аптымальны памер для ілюстрацый, каб назвы чыталіся.

**— Падчас таго як абдумваеце канцэпцыю выдання, вы абапіраецеся толькі на фантазію ці ў вас ёсць прыклады, узоры?**

— Я б не назваў гэта прыкладам. Але ў мяне добрыя настаўнікі. Так, над серыяй кніг Валодзі (Уладзімір Ліхадзедаў, аўтар праекта «У пошуках страчанага» — **А. Г.**) мы працуем разам з Тамарай Мельянец. Яна прызнаны прафесіянал і сярод дызайнераў, і сярод мастакоў, практычна ўсё жыццё — у кніжным бізнесе. Яна ж афармляла практычна ўсе вокладкі серыі. А вось унутраны складнік — мой клопат. І Тамара дае вельмі карысныя парады. Трэба разумець, што кніжны дызайн сярод іншых відаў дызайну — асаблівы напрамак, і на курсах вам не раскажуць пра пэўныя моманты. Дапаможа толькі досвед, асабісты і калег.

**— Наколькі развітае ў Беларусі мастацтва кніжнага дызайну?**

— У нас ёсць лічаныя людзі, якія прафесійна і годна могуць рабіць сваю справу. Часта даводзіцца бачыць прадстаўнічыя, прыгожыя выданні, якія бярэш у рукі, перагортваеш два-тры развароты — і… працягваць гартаць да канца жадання не ўзнікае. Аднак не скажу, што ў нас усё так дрэнна.

**— Ці ёсць у вас творчая мара?**

— Усур'ёз пра гэта і не задумваўся. На перспектыву даволі сур'ёзныя планы з Валодзем (Ліхадзедавым — **А. Г.**), маю на ўвазе серыю «У пошуках страчанага». Не ведаю, колькі яшчэ паштовак у яго калекцыі, аднак мне б хацелася, каб усе яны прайшлі праз мае рукі. Таму што ёсць вельмі рэдкія экзэмпляры. Мы рабілі кнігу, прысвечаную Першай сусветнай вайне на тэрыторыі Беларусі, — «Беларусь праз фотааб'ектыў нямецкага салдата» — і для мяне стаў незвычайным адкрыццём раздзел «Жыццё ў тыле». Якой бы




жорсткай ні была вайна, мы бачым, як нямецкія салдаты ў беларускіх вёсках катаюць дзяцей у вазочках. Упрыгожваюць ёлкі да Раства. Папраўляюць дах ці плот. Кормяць кацянят. Ходзяць на рыбалку… Хацелася б давесці гэтую серыю да пераможнага канца.

**— Сярод зробленых вамі кніг ёсць любімыя?**

— Так. Адразу ж скажу пра кнігу «Мінск. Падарожжа ў часе», бо працавалі не толькі рукамі, яшчэ і нагамі ўсю кніжку выхадзілі. Потым «Піянерскі атлас». Ён не падобны ні да альбома, ні да звычайнай кнігі. Тут мноства дробных ілюстрацый, дэталей, уставак, спасылак, знакаў… Праз гэтыя дробязі яна была складанай у працы — і атрымалася яркай, маляўнічай. Адзін аўтарскі экзэмпляр я берагу для сына. Яшчэ была цікавая кніга — усё з той жа серыі Ліхадзедава — «Мусульманства на Беларусі». Яна выйшла на чатырох мовах, адна з якіх — арабская. Тут сапраўды давялося падключаць усе рэзервы, бо арабскае пісьмо, як ведаеце, ідзе справа налева. Выйсце знайшлі: зрабілі кнігу двухбаковай. Складанасці ўзніклі яшчэ і з падборам шрыфтоў. Але так атрымліваецца, што чым складаней працаваць, тым цікавей.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Князь Вітаўт на балетнай сцэне

**Новы 81-ы сезон Вялікі тэатр Беларусі адкрывае нацыянальнай прэм'ерай. Доўгачаканы балет «Вітаўт», праца над якім распачалася яшчэ ў мінулым сезоне, гледачы ўбачаць 5 і 6 верасня. Напярэдадні прэм'еры пра будучы спектакль расказаў харэограф-пастаноўшчык, народны артыст Беларусі Юрый Траян.**

**— Чаму менавіта князь Вітаўт стаў галоўным героем спектакля?**

— У апошні раз нацыянальны балет ставіўся ў сярэдзіне 90-х гадоў... Мне здаецца, публіка ўжо зачакалася. Вялікі тэатр увогуле мусіць пастаянна клапаціцца пра папаўненне нацыянальнага рэпертуару, з гэтай прычыны некалькі гадоў таму я пачаў шукаць тэму, паводле якой мог бы атрымацца цікавы спектакль. Сустрэўся з драматургам Аляксеем Дударавым, які падарыў мне свой зборнік гістарычных п'ес пад назвай «Князь Вітаўт». Гэта стала адпраўной кропкай, і цяпер мне абсалютна зразумела, што асоба Вітаўта і перыпетыі яго насычанага падзеямі жыцця як нельга лепш адпавядаюць сённяшняму часу. У нашым спектаклі мы хацелі б пагаварыць пра ролю асобы ў гісторыі. На прыкладзе Вітаўта добра бачна, што калі ў дзяржаве ёсць лідар з цвёрдым характарам і ўменнем дабівацца свайго, незалежна ад гістарычнай сітуацыі, гэта прыводзіць да ўмацавання дзяржавы, умацавання аўтарытэту народа.

**— Ці імкнуліся вы прытрымлівацца рэальных фактаў з жыцця Вітаўта?**

— У любым выпадку мастацкі твор — фантазія аўтара. Вялікі тэатр не навукова-



*Народны артыст Беларусі Юрый Траян.*

даследчы інстытут, які вывучае праблемы гісторыі. Мы ствараем харэаграфічную легенду. Менавіта так для сябе я вызначыў жанр гэтага спектакля. На працягу стагоддзяў людзі перадаюць з пакалення ў пакаленне паданні пра вялікіх асоб, і з часам ужо немагчыма вызначыць, што з'яўляецца праўдай, а што створана народнай гаворкай. На аснове некаторых рэальных гістарычных фактаў мы фантазіруем, паказваем сваё разуменне таго, што было, а магчыма, і не… Зразумела, нельга змясціць у паўтары-дзве гадзіны ўсё жыццё Вітаўта, які прайшоў складаны і доўгі шлях. Мы засяроджваем увагу на некаторых найбольш значных падзеях у яго лёсе, паказваем у асноўным час, калі адбывалася станаўленне Вітаўта як асобы. Мне здаецца, у жыцці любога чалавека юнацтва і маладосць вызначальныя для фарміравання характару.

**— Сярод дзеючых асоб балета і кароль польскі Ягайла, стрыечны брат Вітаўта. Паміж імі існавалі даволі складаныя ўзаемаадносіны. Як вы лічыце, якімі чалавечымі якасцямі яны валодалі?**

— Ягайла стаў каралём Польшчы і заснаваў знакамітую дынастыю Ягелонаў. А менавіта пры Вітаўце Вялікае Княства Літоўскае значна пашырыла свае межы і дасягнула росквіту. Мне здаецца, князь Вітаўт быў мудрым чалавекам, і гістарычныя хронікі сведчаць, што ён вызначаўся разважлівасцю, уменнем прагназаваць развіццё сітуацыі, разуменнем людзей. А вось Ягайла быў больш схільны да шыкоўнага каралеўскага жыцця, імкнуўся стаць каралём польскім і здолеў дамагчыся гэтай пасады ў цяжкай барацьбе.

Мне было вельмі цікава прасачыць гісторыю ўзаемаадносін Вітаўта і Ягайлы. Яны то сварыліся, то мірыліся, то ваявалі, то выступалі разам супраць ворагаў. Здавалася б, у нейкі момант іх шляхі разыходзіліся назаўсёды, аднак у пэўных сітуацыях яны знаходзілі ў сабе сілы і розум, каб знайсці кампраміс і дамовіцца. Лепшым прыкладам з'яўляецца знакамітая Грунвальдская бітва, дзе Вітаўт і Ягайла ваявалі плячо да пляча.

**— Сярод музыкантаў існуе жарт: «добры кампазітар — гэта мёртвы кампазітар». Вам пашанцавала супрацоўнічаць з жывым аўтарам — Вячаславам Кузняцовым. Якія ўражанні ад сумеснай работы?**

— Гэта вельмі важна, калі ёсць магчымасць патэлефанаваць кампазітару і параіцца з ім ці папрасіць змяніць што-небудзь у партытуры. Але самае галоўнае, каб у выніку музыка ў спектаклі кранала пачуцці і будзіла пэўныя асацыяцыі. Мне пашанцавала прысутнічаць падчас працы кампазітара і сачыць за працэсам: ад першых тактаў да ўжо скончанага твора. Вячаслаў Кузняцоў напісаў шматгранную, эмацыйную і глыбокую музыку. Асабіста мне як харэографу гэтая музыка дае пастаянную «падпітку», «заводзіць» па-сапраўднаму, і чым больш я паглыбляюся ў яе, тым больш знаходжу сэнсаў, мудрасці, глыбіні, эмоцый.

**— Якія планы яшчэ існуюць у беларускага балета ў гэтым тэатральным сезоне?**

— Пасля «Вітаўта» мы адразу пачнём працу над аднаактовым балетам «Шэсць танцаў» у харэаграфіі Іржы Кіліана, прэм'ера якога адбудзецца 8 і 9 кастрычніка, а ў канцы лістапада запрашаем на яшчэ адну прэм'еру — балет «Сем прыгажунь» на музыку азербайджанскага кампазітара Кара Караева. Апошнія тэатральныя сезоны атрымаліся для нас вельмі напружанымі, і ў гэтым таксама будзе шмат падзей. Таму мы вельмі скрупулёзна плануем наш час, чаргуючы прэм'еры і гастролі. Што да гастрольных паездак, то нашы візіты ў некаторыя краіны ўжо сталі традыцыйнымі, штогадовымі. Мяркуючы па рэакцыі аўдыторыі, беларускі балет знаходзіцца на вельмі высокім узроўні, гэта аб'ектыўны факт, заснаваны на тым, як нас прымаюць і як запрашаюць у наступны раз. Пагадзіцеся, можна падзякаваць за гастролі, сказаць, што ўсё спадабалася, а можна падзякаваць і адразу пачаць дамаўляцца на наступны год. Як правіла, мы атрымліваем запрашэнні паўторна. У гэтым сезоне беларускі балет будзе гастраляваць у Францыі, Германіі, Аўстрыі, Іспаніі, Італіі…

**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ,**
**фота прадастаўлена НАВТ оперы і балета Рэспублікі Беларусь**

# «Якія глыбокі далягляд...»

Заўтра ў Быхаве адбудзецца Міжнародны «круглы стол» «Мова і літаратура ў кантэксце гісторыка-культурнай спадчыны». На ім госці сёлетняга Дня беларускага пісьменства абмяркуюць праблемы і перспектывы развіцця нацыянальных літаратур, выкажуць думкі пра ролю літаратурных СМІ і выдавецтваў, прапануюць уласныя шляхі да чытача, а таксама падзеляцца меркаваннямі наконт стану сучасных міжлітаратурных стасункаў і моўных працэсаў. Напярэдадні юбілейнай падзеі «ЛіМ» знаёміць вас з удзельнікамі замежных дэлегацый, якія ў розныя гады завіталі на свята.

## РАСІЯ

### Станіслаў КУНЯЕЎ

Паэт, публіцыст, крытык, галоўны рэдактар часопіса «Наш современник».

#### Возера Безназоўнае

*Цішыня. Нібы хтосьці ствары́ў*
*гэты кут без істот гаманлівых.*
*Толькі лебедзяў сонных ускрык,*
*толькі крылаў узмах ганарлівы.*
*Толькі лес, пасівелы, бы лёс,*
*ды ў бязмоўныя белыя ночы*
*цьмяным полымем нізкіх нябёс*
*адбіваюцца возера вочы…*
*Калі з целам душу раз'яднаць —*
*хай адразу пасля развітання*
*стане возерам гэтым яна*
*ці чаротам над возерам стане.*
*Хай яна застанецца заўжды*
*без мяне з гэтым светам чароўным*
*пра сваё гаварыць ля вады*
*безназоўная над Безназоўным.*
*Я без бою яе аддаю,*
*пра мінулыя дні забываю,*
*хай жа лічыць яе за сваю*
*лебядзіная белая стая.*

### Аляксандр КАЗІНЦАЎ

Публіцыст, празаік, першы намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Наш современник».

*«На жаль, мне цяжка гаварыць пра літаратуру сёння як пра агульнанацыянальную з'яву. У Расіі, на маю думку, літаратуры як адзінай з'явы даўно няма — ёсць выбітныя пісьменнікі, эпохі, якія сыходзяць,— Распуцін, Бялоў... Творцам, якія яшчэ нядаўна лічыліся «сярэднім пакаленнем», сёння ўжо па семдзесят. Ёсць мае равеснікі, тыя, з кім я працаваў і працую. З маладых мая «любоў» — Захар Прылепін, вельмі таленавіты аўтар, якога я ведаю даўно, калісьці даваў яму парады... Але ўсё гэта — асобныя пастаці, у іх адсутнічае агульны дзельнік. Сярод беларускіх аўтараў мне бліжэй стрыманая камерная псіхалагічная проза Алеся Бадака, у якой няма «разборак» у стылі расійскага жыцця. Мне падаецца, гэта магло б стаць той пазнакай, якая можа адрозніваць усю сучасную беларускую прозу ад вірліва-эмацыйнай расійскай».*

### Уладзімір БЯРАЗЕЎ

Паэт, эсэіст, перакладчык, публіцыст, галоўны рэдактар часопіса «Сибирские огни».

*«У мяне яшчэ з перыяду вучобы ў Літаратурным інстытуце склалася вельмі прыязнае стаўленне да беларускай літаратуры. З часам яно толькі ўмацавалася, дзякуючы таму, што ў ёй прысутнічае пэўны кансерватызм, прывязанасць да традыцый, зварот да мінулага. Гэта адметнасць, як мне падаецца, усіх беларусаў, іх ладу жыцця, духу. А ва ўмовах сучаснага глабальнага свету якраз гэта падаецца мне надзвычай пазітыўным. Гэта зберагае мову — аснову нацыянальнай самабытнасці. Літаратура без нейкага адкрыцця, якое ёсць у мове, не мае сувязі з нябёсамі. З самых першых тэкстаў, ад Скарыны, гэта было ўласціва беларускаму пісьменству. Я веру ў будучыню беларускай літаратуры. Аднак не трэба забывацца і пра тое, што без адкрытасці да іншых — моў і літаратур — ёсць небяспека застацца замкнёнымі ў саміх сабе. Хаця пра беларускіх аўтараў, якія друкуюцца ў часопісе «Сибирские огни», можна сказаць, што яны разумеюць неабходнасць гэтай адкрытасці, якая дазваляе весці размову пра выхад за межы вузканацыянальнай "ваколіцы"».*

### Алесь КАЖАДУБ

Празаік, эсэіст, намеснік галоўнага рэдактара «Литературной газеты». Першае апавяданне апублікаваў у 1976 годзе ў часопісе «Маладосць».

*«Для моладзі найбольш важна — месца публікацыю. У «Литературной газете» ёсць нават асобны праект — штомесяц мы выпускаем паласу «Литературный резерв», дзе змяшчаюцца творы 10 — 15 аўтараў, прычым абавязкова прадстаўляем маладую літаратуру расійскай глыбінкі. Я лічу, што моладзь абавязкова трэба друкаваць!»*

### Аляксандр БАГАТЫРОЎ

Публіцыст, перакладчык, драматург, сцэнарыст, кінакрытык. Піша на грамадска-палітычныя і гістарычныя тэмы. Асаблівую ўвагу надае ролі рэлігіі ў сучасным грамадстве.

*«Пакаянне — справа цяжкая. Для пачатку трэба зразумець. Зразумець і зрабіць першыя крокі. Пасля Бог дапаможа зрабіць большае. Давайце пачнем з прабачэння перад нябожчыкамі, якіх выправілі на той свет нашы дзяды, і дазволім ім лёгчы ва ўласныя магілы. І помнікі ім вернем, адпраўленыя ў экспазіцыю альбо ссунутыя для зручнасці прагулак…»*

## КАЗАХСТАН

### Любоў ШАШКОВА

Паэтэса, старшыня савета па рускай літаратуры Саюза пісьменнікаў Казахстана, аглядальнік газеты «Казахстанская правда».

#### Стэп

Акіму Таразі

*Які глыбокі даляглядъ*
*Зімою пад Карагандою.*
*Нябеснай мераны вярстою,*
*Каб не акінуў і пагляд.*
*Каб нават птушцы — даляцець,*
*Каб нават конным даімчацца*
*Ніхто не змог. Зімовым часам*
*Блукаць па стэпе — гэта смерць.*
*І тут жыла мая душа.*
*Незакілзаная вятрамі,*
*Яна спяшала зведаць шал,*
*Сябе знайсці і ў стэпе страціць…*
*За непрыкметнаю Нурой,*
*схаванаю ў завейным пыле,*
*Зусім інакшаю парой*
*Тут тыя ж даляглязды плылі.*
*Цягнік імчаўся наўздагон*
*Сталёвым шляхам ад вакзала,*
*Ад той мяне, што сотню год*
*Дарогу між чужых шукала.*
*Нябеснай мераны вярстой*
*Нам нехта іншы шлях пазначыў.*
*На стэп гляджу ў імгле пустой.*
*І пазнаю яго. І плачу.*

### Святлана АНАНЬЕВА

Галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры і мастацтва імя М. А. Ауэзава Міністэрства навукі і адукацыі Рэспублікі Казахстан, кандыдат філалагічных навук, дацэнт.

*«Менавіта з маладымі вучонымі, з іх падрыхтоўкай мы звязваем уклад у інавацыйнае развіццё Казахстана, новыя праекты, а таксама міжнароднае супрацоўніцтва. Менавіта моладзі трэба сказаць сваё слова як у навуцы, так і ў адукацыі».*

## АЗЕРБАЙДЖАН

### Чынгіз АЛІАГЛУ

Паэт, перакладчык, публіцыст, старшыня міждзяржаўнага савета СНД па пытаннях кнігавыдання. Прадстаўляе міністэрства культуры і турызму Азербайджана.

#### Плыла сабе песня да берага вечарам

*Ці то мора, дружа мой, запяяла хвалямі?*
*Ці то рыбы голас свой раптам падалі?*
*Ці зямля з нябёсамі цішком згаварыліся?*
*Але песня выплыла*
*З соннае вады.*

*Камяні стаіліся. Людзі схамянуліся.*
*На самотным беразе не знайсці слядоў.*
*Толькі там, дзе мора край, быццам чайкі, ветразі.*
*Там — над белым ветразем — белы карабель.*

*Ці дзіця спявала там, ці дзяўчына юная?*
*Ды не стала музыкі — ці была яна?*
*Не чуваць ні слоўца больш,*
*Хто падкажа мову іх?*
*Толькі бераг ведае,*
*Сон то быў ці спеў.*

***

*Я дажыў да залатога дня:*
*Сэрца стала яблыні галінкай.*
*Дождж сляпы прыйшоў мяне абняць,*
*Хоць ніхто сюды яго не клікаў.*
*О, салодкі яблычны наіў!*
*Шчокі яблык цёплы вецер лашчыць.*
*Мне смяецца палавіна іх,*
*А другая палавіна — плача…*

## УКРАІНА

### Галіна ТАРАСЮК

Паэт, празаік, крытык, публіцыст, перакладчык. Загадчык аддзела рэдакцыі газеты «Українська літературна газета». Аўтар больш як двух дзясяткаў кніг, а таксама сотні публікацый на сацыяльную тэму, прысвечаных абароне духоўнасці і ўкраінскай мовы. Лаўрэат шматлікіх літаратурных прэмій Украіны.

***

*Цвіла гліцынія.*
*І готыка Ай-Петры,*
*І неба — у смарагдавым тумане.*
*І быў хлапчына — у зялёным швэдры.*
*І быў хлапчына гэты закаханы.*
*Ён закахаўся першы.*
*Выпадкова.*
*І для мяне, і для сябе раптоўна.*
*Цвіла гліцынія надзеяй васільковай,*
*І ўсё было зялёным і чароўным.*
*Калі заранка вішняй нераспелай*
*Зіхцела пурпурова над Ай-Петры.*
*Шкада, я закахацца не паспела*
*Ў таго хлапчыну, у зялёным швэдры.*

### Міхаіл КАМЯНЮК

Паэт, перакладчык, журналіст, краязнаўца, намеснік старшыні Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны. Творы перакладзеныя на польскую, балгарскую, рускую, малдаўскую, кабардзінскую, балкарскую ды іншыя мовы. Працаваў у маладзевых выданнях, на тэлебачанні, стварыў першую маладзевую бесцэнзурную радыёстанцыю прамога эфіру «Сьомий континент», актыўна займаецца выдавецкай справай. Песні на яго вершы выконваюць як барды, так і акадэмічныя харавыя калектывы.

***

*Я не памыліўся,*
*толькі памаліўся,*
*каб раман наш назаўжды спачыў.*
*Я не лаяцца з табою навучыўся,*
*а маўчаць цябе я навучыў.*
*І цяпер стаю, як пасля бітвы.*
*Божа, ты стварыў усё, што ёсць,*
*грэшную*
*пачуй маю малітву!..*
*Захавай бяспамяцтва маё!..*

### Уладзімір ДАНІЛЕНКА

Празаік, эсэіст, крытык, кандыдат філалагічных навук, намеснік старшыні Кіеўскай арганізацыі НСПУ, аўтар анталогій сучаснай украінскай прозы «Квіти в темній кімнаті», «Опудало», «Вечеря на дванадцять персон». Творы перакладаліся на нямецкую мову.

*«Ва Украіне літаратура вучняў і чаляднікаў часта падаецца як найбуйнейшы нацыянальны здабытак, у нас няма незалежнай, разумнай, зубастай крытыкі. Выспяванне літаратурнага таленту — складаны і працяглы працэс. Калі ў паэзіі талент квітнее і адцвітае да трыццаці гадоў, то ў прозе і драматургіі талент праяўляе сябе часта ў сорак і пяцьдзясят гадоў. Спелыя раманы пішуцца ў сталым узросце… Таму трэба любоўна збіраць і прапагандаваць усё лепшае ў кожным пакаленні ўкраінскай літаратуры, інакш мы ніколі не ўздымемся да вялікіх літаратур свету».*

### Аляксей КАНАНЕНКА

Паэт, журналіст, сцэнарыст, заслужаны дзеяч мастацтваў Украіны. Аўтар больш як 30 кніг, 200 песень на музыку розных кампазітараў, 300 публікацый у прэсе. Творы друкаваліся ва Украіне, Расіі, Беларусі, Канадзе, Грузіі, Азербайджане, Туркменістане.

***

*Браце, мы збіліся з тропу,*
*Наш човен гайдае.*
*Каб далей пратрымацца хоць трохі,*
*Трэба вяртацца да краю.*

*Браце, наш час не для слёз,*
*Час забыцца пра зваду старую.*
*Берагам мы ўсміхнемся здалёк*
*І ветразі зацыруем.*

*Не глядзі, хто трымае штурвал,*
*Хто разгортвае ветразь.*
*Нас чакае зямля, датрываць —*
*І ўсім будзе — па веры!*

**Пераклад Таццяны СІВЕЦ**



## СЕРБІЯ

### Джорджа НІКАЛІЧ

Сербскі паэт, які жыве ў ЗША. Займаецца літаратурным перакладам з сербскай мовы на англійскую і з англійскай на сербскую. З'яўляецца лаўрэатам шэрагу літаратурных узнагарод, у ліку якіх прэміі Акадэміі амерыканскіх паэтаў (Нью-Йорк, 1977), імя Рыста Раткавіча (Бялград, 2001), імя Душана Васілева (Бялград, 2002) і інш. Яго творы прадстаўлены ў анталогіях амерыканскай і сербскай паэзіі, перакладаліся на англійскую, балгарскую, іспанскую, італьянскую, македонскую, румынскую, рускую і японскую мовы. Да Дня беларускага пісьменства выдавецтва «БЕЛПРЫНТ» выпускае ў свет выбраныя вершы Дж. Нікаліча пад назвай «Таямніца часу» на беларускай мове.

### Сербія

*Наканавана: гінь ды выжывай*
*Магілы скрозь адна на адной*
*Ледзь-ледзь прарастае трава*
*Над калыскамі грай груганоў*
*Наканавана: гінь ды выжывай*

### Дзедаў лес

*Пайшлі мы ў лес*
*А лес апусцеў —*
*Ні дрэў ні птушак*
*Дрэвы паўрасталі ў глебу*
*Птушкі паадляталі ў неба*
*Засталіся толькі гнёзды*
*Ні на небе ні на зямлі*
*Птушаняты аблятаюць узлессе*
*Каб не забываліся межы*
*Якіх няма ўжо*

### Нараджэнне маё

*Быў я ці ружай ці ваўком*
*Калі давялося радзіцца*

*Воўк вярнуўся ў ноч*
*Ружа перасягнула дзень*

*Надзелены імем я заблукаў*
*У свеце ні кветка ні звер*

*Ружа сёмым шыпом закалолася*
*Ваўка задзёр наймалодшы нашчадак*

### Таямніца часу

*Якая гадзіна там*
*На вялікім гадзінніку Божым?*

*Схавана ад нас гэтая*
*часу таямніца вялікая*

*Існуе бадай такі над-гадзіннік*
*Па якім звяраецца час наогул*
*Час пачатку і канца*
*Альбо хоць час вялікага пачатку*
*Які вылучаецца з плыні часоў*
*Мінулых і будучых*
*Гэтак як Біблія вылучаецца*
*З кніг*
*Пра-кніга ўсіх кніг*
*і ўсяго пісьменства*
*Гэтак як Бог вылучыўся з людзей*
*Як храмы вылучаюцца*
*Сярод усіх збудаванняў*
*Як могілкі вылучаюцца*
*Сярод іншых прытулкаў*

*Існуе бадай такі гадзіннік*
*Па якім падганяюцца*
*стрэлкі сусвету*
*Па якім планеты*
*выстройваюцца ў свой парадак*

*Калі сонца Божая званіца*
*Дзе стаіць яна*
*ад пачатку пачаткаў*
*Колькі часу цяпер*
*паводле сусвету*
*Як выглядае дзень у календары Бога*
*Ці ёсць там да поўдня і апоўдні*
*Што за працяглась у Божай мінуты*
*А ці і там час вымяраецца*
*Гэтаксама як і ў нас*
*І аднойчы ўсё роўна скончыцца*

**Пераклад**
**Івана ЧАРОТЫ**

*Стасункі*

# У пабрацімстве ёсць свой сэнс…



Фота Кастуся Дробава

*«Пісьменнік. Кніга. Час». Глыбокае, 2012 г.*

Пачынаючы з 2007 года, Міністэрства інфармацыі краіны, Саюз пісьменнікаў Беларусі і РВУ «Літаратура і Мастацтва» (а цяпер — Выдавецкі дом «Звязда») праводзілі «круглыя сталы» з удзелам замежных пісьменнікаў. Ідэя правядзення заўжды была звязана з арганізацыяй стасункаў мастакоў слова, пашырэннем перакладчыцкіх сувязяў літаратараў розных краін.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

І сустрэчы, размовы, дыскусіі прынесілі і прыносяць практычны плён. Безумоўна, станоўчы вынік атрымліваўся дзякуючы яркім, апантаным асобам, што ад года ў год завітвалі ў Мінск, гарады — сталіцы Дзён беларускага пісьменства. Адзін з такіх сяброў Беларусі — таджыкскі драматург, празаік, выдавец Ато Хамдам. За плячыма ў гэтага чалавека — доўгія гады журналісцкай працы. Некалькі гадоў спадар Ато займаў пасаду міністра культуры Таджыкістана. Быў памочнікам Прэзідэнта Таджыкістана. Узначальваў выдавецтва «Адзіб» («Пісьменнік»). Менавіта Ато Хамдам арганізаваў у Таджыкістане выданне перакладнога часопіса «Іхціод» («Саюз») на рускай і таджыкскай мовах. Дзякуючы ініцыятывам, стараннем нашага сябра ў Душанбэ пабачылі свет кнігі беларускіх пісьменнікаў Георгія Марчука, Юрыя Сапажкова, Алеся Бадака, Міколы Мятліцкага. А таксама — анталогія сучаснай беларускай літаратуры «Вячэрняе вогнішча» ў перакладзе на таджыкскую мову. Ато Хамдам — адзін з аўтараў кнігі «Дружба народаў — дружба літаратур», прысвечанай беларуска-таджыкскім літаратурным сувязям.

Шмат для прапаганды беларускай літаратуры ў Чарнагорыі зрабіў і робіць Слабадан Вуканавіч. Яго з нашай краінай пазнаёміў доктар філалагічных навук, прафесар Іван Аляксеевіч Чарота. Слабадан Вуканавіч перакладае, збірае анталогію лепшых вершаў беларускіх паэтаў. Уважлівы да нашай класікі. Шмат зроблена рускімі літаратарамі, якія ў розныя гады прымалі ўдзел у «круглых сталах». Размова і пра народных паэтаў Татарстана Рэната Харыса і Роберта Мінуліна, народнага пісьменніка Удмурціі Вячаслава Ар-Сяргі, перакладчыка Вячаслава Купрыянава, першага намесніка галоўнага рэдактара часопіса «Наш современник» Аляксандра Казінцава, намесніка галоўнага рэдактара «Литературной газеты» Алеся Кажадуба. Менавіта дзякуючы іх намаганням склаўся трывалы мост беларуска-расійскіх літаратурных зносін.

Правядзенню кожнага з «круглых сталоў» папярэднічае важкая падрыхтоўчая праца. Намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда» — галоўны рэдактар часопіса «Нёман» Алесь Бадак вось што расказвае пра гэта: «Сам факт правядзення сустрэч міжнароднага ўзроўню падштурхоўвае да пастаяннай цікавасці да таго, што ж робіцца ў іншых нацыянальных літаратурах. Гэта дазваляе не замыкацца ў сваіх сценах, развівае зносіны, падказвае тыя вяршыні, якія ўжо адолены іншымі…» Сапраўды, ведаць, што адбываецца, дзеецца ў шырокім мастацкім свеце — хіба ж гэта не важна?!

Сустрэчы з пісьменнікамі свету на беларускай зямлі маюць і яшчэ адзін важкі аспект. Шмат для каго знаёмства з нашай



Фота Кастуся Дробава

*«Беларускі акцэнт: вопыт і перспектывы міжнароднага культурнага супрацоўніцтва». Нацыянальная бібліятэка Беларусі, 2011 г.*

краінай, усведамленнем, якія намаганні прыкладае дзяржава дзеля вырашэння многіх і многіх сацыяльных, народнагаспадарчых праблем, становіцца сапраўдным адкрыццём. І беларускія калегі стараюцца як мага шырэй пазнаёміць гасцей з Беларуссю, расказаць, што складае аснову дзяржаўнага будаўніцтва. Паэты і празаікі з далёкага і блізкага замежжа з цікавасцю распытваюць пра тое, якія змены адбыліся ў апошнія гады, цікавяцца гісторыяй нашай краіны. Вяртаючыся дадому, літаратары выступаюць на сустрэчах з чытачамі, пішуць публіцыстычныя і мастацкія творы. Прыкладам, істотна папоўніўся пасля паездкі ў Беларусь, наведвання Барысава, Чэрвеньскага і Пухавіцкага раёнаў вершаваны дзённік удмурта Вячаслава Ар-Сяргі. Ён з вялікай ахвотай унікаў у клопаты вяскоўцаў і гараджан, некалькі разоў выступіў і з чытаннем сваіх твораў. У памяці — удзел у рабоце «круглага стала» пісьменнікаў з Татарстана Рэната Харыса і Роберта Мінуліна. Яны ўдзельнічалі ў Дні беларускага пісьменства ў Смаргоні ў 2009 годзе. Абодва досыць вядомыя ў Паволжы літаратары. Ды і ўвогуле — ва ўсёй Расіі. Рэнат Харыс — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Расійскай Федэрацыі. Роберт Мінулін не адно дзесяцігоддзе ўзначальвае Дзіцячы фонд Татарстана. Абодва некалькі скліканняў працавалі ў парламенце Татарстана. І абодва наўздзіў добра, шчыра пасябравалі з Беларуссю. Цяпер менавіта з іх падтрымкай у старонцы, якая некалі ў Вялікую Айчынную прытуліла народнага песняра Беларусі Янку Купалу, актыўна прапагандуецца беларускае мастацкае слова. Такое сяброўства дарагога вартае. Шмат напісаў пра Беларусь чарнагорац Слабадан Вуканавіч. І мяркуючы па ўсім, праз гэтыя вершаваныя, празаічныя, публіцыстычныя творы ў розных куточках свету, у розных рэгіёнах Расійскай Федэрацыі якраз і адкрываюць Беларусь сённяшнюю, знаёмяцца з нашымі здабыткамі, нашымі нацыянальнымі рысамі. Менавіта ў гэтым, відаць, і заключаецца галоўнае значэнне міжнародных сустрэч творчых людзей на беларускай зямлі.

# Горад-помнік, горад-легенда



**У 2014 годзе ў другі раз сталіцай Дня беларускага пісьменства з гонарам будзе Заслаўе.**

**Уладзімір ЗАЛУЖНЫ**

Ізаслаўль, Ізяслаўль, Жаслаўль, Заслаў, Заслаўе. Лічы, у кожным стагоддзі адбывалася новая транскрыпцыя назвы горада.

На мяжы XI — XII стагоддзяў у planіроўцы Ізяслаўля адбыліся істотныя змены. На правым беразе Свіслачы ўзняўся замак, быў пабудаваны больш магутны дзядзінец. У гэты час Ізяслаўскай воласці быў нададзены статус удзельнага княства.

Горад неаднаразова руйнавалі і спустошвалі міжусобныя войны, племянныя канфлікты, пажары. Згодна архіўных дакументаў, першым уладальнікам Заслаўя ў так званы літоўскі перыяд гісторыі Беларусі быў Яўнут Гедымінавіч — малодшы сын вялікага князя Гедыміна. Але з гэтым прызначэннем не маглі пагадзіцца старэйшыя браты — Альгерд і Кейстут. Паміж імі ўспыхнула барацьба за ўладу. Магчыма, таму Яўнут не стаў карыстацца гербам вялікіх князёў «Пагоня», а стварыў свой уласны герб з выявай ільва.

Значны след у гісторыі Заслаўя пакінуў Ян Янавіч Глябовіч — пры ім горад стаў галоўнай рэзідэнцыяй знакамітага літоўскага роду і дасягнуў найвышэйшага свайго стану. Ян клапаціўся пра развіццё адукацыі, наладзіў вытворчасць паперы. У мясцовы замак ён запрасіў вядомага гуманіста, рэлігійнага рэфарматара, кальвініста Сымона Буднага, які тут закончыў пераклад Бібліі на польскую мову. У гэты перыяд росквіту дасягае вытворчасць заслаўскай кафлі. На партрэтных плітках дакладна, з густам перадаваліся рысы твару, дэталі адзення вядомых асоб.



Фота з сайта radzima.org

*Спаса-Праабражэнская царква.*

Пасля смерці Яна Глябовіча Заслаўе перайшло ва ўласнасць яго сына Мікалая. Падчас контррэфармацыі ён прыняў каталіцтва, забраў у кальвіністаў замкавы храм і перадаў яго каталікам. Такім чынам, кальвінскі збор быў пераасвячоны ў касцёл св. Міхаіла Архангела. Акрамя перадачы каталікам пратэстанцкага храма, М. Глябовіч у 1625 годзе будуе ў горадзе каля рынкавай плошчы драўляны касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі.

Варта назваць і іншых уладальнікаў горада: магнат Казімір Павел Ян Сапега, Ежы Сапега, Антоній Тадэвуш, Міхаіл і Дамінік Пшаздзецкія, Міхаіл Прушынскі, Павел Хамянтоўскі...

У другой палове XIX — пачатку XX ст. у Заслаўі актыўна развівалася сістэма асветы. Першае народнае вучылішча пабудавана ў 1863 годзе, а ў 1867-м — царкоўна-прыходская школа, пры якой быў створаны ўзорны ва ўсёй губерні інтэрнат для навучэнцаў. У 1904 годзе расчыніла дзверы другакласная царкоўна-прыходская школа, існавала пачатковая яўрэйская школа — хедэр.

І яшчэ некалькі лічбаў. Згодна перапісу насельніцтва 1908 года, тут пражывалі 491 мужчына і 496 жанчын. Налічвалася 14 лавак, у тым ліку адна вінная і дзве піўныя, якія належылі гандлярам-яўрэям. Крухмальным заводам кіраваў Саламон Штэйнберг.

У старажытным Заслаўі знайшоў свой апошні прыстанак вядомы грамадскі дзеяч Беларусі, пісьменнік Ян Барэйка Ходзька. Ён — сведка паўстання Тадэвуша Касцюшкі, удзельнік паходу Напалеона Банапарта, актыўны член таварыства філаматаў і філарэтаў, першы масон у Беларусі, аўтар 12-томнага збора «Pisma rozmaite» і многіх іншых твораў.

Бадай, хопіць гісторыі. Варта крыху расказаць пра сучаснае Заслаўе, якое раскінулася ў пойме Свіслачы за 12 кіламетраў ад сталіцы Беларусі. З глыбінь вякоў да нас дайшлі заслаўскія старадаўнія помнікі, на базе якіх створаны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Заслаўе».

Адметныя яго славутасці — Спаса-Праабражэнская царква і касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі. Вандроўнікі ахвотна наведваюць этнаграфічны комплекс «Млын», дзе захоўваецца паравы млын — унікальны помнік мукамольнай вытворчасці пачатку XX ст. Тут таксама ёсць дом завознікаў, амбар і кузня. Гарадзішча «Замэчак» уяўляе сабою рэшткі ўмацаванага паселішча. Крэпасць тут была пабудавана ў апошняй чвэрці X ст. па загадзе кіеўскага князя Уладзіміра як фарпост паўночна-заходніх рубяжоў дзяржавы.

Гісторыка-культурны комплекс «Лінія Сталіна» — гэта ваенна-гістарычны музей пад адкрытым небам. У яго аснове — ДОТы Мінскага ўмацаванага раёна. Тут ёсць усе віды акопаў, траншэй і супрацьтанкавых ірвоў, сабрана найбольш поўная ў Беларусі экспазіцыя ваеннай тэхнікі, якая стаяла на ўзбраенні былога СССР.

Прыцягвае ўвагу экспазіцыя «Залы габеленаў» — музей з трох твораў пад назвамі «Рагнеда», «Полацкія званы» і «Малітва». «Музыка вячорак» знаёміць наведвальнікаў з музычнай мястэчковай культурай.

Напрыканцы гэтага кароткага аповеду пра будучую сталіцу Свята беларускага пісьменства варта прадставіць яе герб, які зарэгістраваны ў Гербавым матрыкуле Рэспублікі Беларусь 6.08.1999 г. № 36. У чырвоным полі іспанскага шчыта залатая ауба — так званы «трезубец Изяслава» — стылізаваная выява княжацкага знака.

Мы ўпэўнены, што кожны турыст, які завітае ў гэтае цудоўнае мястэчка, падыдзе да помніка Рагнеды і Ізяслава. Нагадаем, непакорная жонка кіеўскага князя Уладзіміра, полацкая князёўна Рагнеда разам з сынам Ізяславам была саслана ў полацкую вотчыну (Заслаўе), дзе правяла рэшту сваіх дзён манахіняй і прыклала шмат духоўных і фізічных сіл для росквіту гэтага цудоўнага куточка Беларусі.

## ПРАГРАМА ДНЯ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА

### *1 верасня 2013 г. / г. Быхаў*

| | | |
|---|---|---|
| 8.30-10.00 | Літургія | Быхаўская Траецкая царква |
| 10.00-11.45 | Канцэрт ансамбля званароў Беларускай праваслаўнай царквы, Магілёўскай гарадской капэлы, акадэмічных хораў Магілёўскай вобласці | Вул. Куйбышава, 2 |
| 10.00-20.00 | Выстаўка-прэзентацыя «Славутая зямля славутых продкаў» | Раённы Цэнтр культуры, вул. Леніна, 54 |
| 11.30-11.50 | Святочнае адкрыццё скульптурнай кампазіцыі «Баркулабаўскі летапіс» | Кастрычніцкая плошча |
| 12.00-13.30 | Урачыстае адкрыццё Дня беларускага пісьменства.<br>Цырымонія ўзнагароджання пісьменнікаў-пераможцаў Рэспубліканскага конкурсу на лепшы літаратурны твор года | Галоўная сцэнічная пляцоўка (РЦК, стадыён) |
| 14.30-15.45 | Канцэрт аркестра народных інструментаў імя Л. Л. Іванова | Галоўная сцэнічная пляцоўка (РЦК, стадыён) |
| 15.00-15.30 | Закладка алеі гарадоў-сталіц свята «Дзень беларускага пісьменства» | Парк 50-годдзя Перамогі |
| 16.00-18.00 | Канцэрт гарадоў-сталіц Дня беларускага пісьменства | Галоўная сцэнічная пляцоўка (РЦК, стадыён) |
| 09.00-20.00 | «Магілёўшчына фестывальная»: экспазіцыі творчых рэкламных і тэматычных прэзентацый.<br>Канцэрты духавых аркестраў і самадзейных калектываў | Вул. Леніна (пляцоўка каля фантана) |
| 09.00-22.00 | Гістарычная тэатралізаваная экспазіцыя «Літаратурная спадчына ад крыніц да сучаснасці».<br>Крос-акцыя «Прачытаў — перадай іншаму».<br>Падвядзенне вынікаў абласнога конкурсу літаратурнага краязнаўства «Таленты ад роднае зямлі». | Вул. Леніна (тэрыторыя каля стадыёна) |
| | Тэатралізаваная гістарычная экспазіцыя з удзелам гістарычных клубаў, творчая прэзентацыя «Рыцарскага фэсту» (Мсціслаўскі раён).<br>На сцэнічнай пляцоўцы каля Быхаўскага замка: тэатралізаваныя праграмы «Кола гісторыі», «Свята (Рыцарскі фэст) у Быхаўскім замку», паказ спектакляў Магілёўскага абласнога тэатра лялек, работа акцёрскіх груп Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра | Замкава-паркавая зона |
| | Гістарычная тэатралізаваная экспазіцыя з удзелам творчых калектываў нацыянальных аб'яднанняў, акцёраў абласнога тэатра імя Дуніна-Марцінкевіча (г. Бабруйск), выступленне харэаграфічных калектываў Магілёва і Бабруйска | Тэрыторыя каля сінагогі |
| | Літаратурна-канцэртныя праграмы з удзелам аўтараў-выканаўцаў, пісьменнікаў, паэтаў.<br>Паказ пастановак беларускай драматургіі, літаратурна-музычных кампазіцый аматарскімі тэатральнымі калектывамі Магілёўскай вобласці | Аўтарская пляцоўка «Чароўны свет душы» |
| | Творчая праграма «Мы нашчадкі літаратурнай скарбніцы Беларусі»: тэматычныя канцэртныя праграмы, прэзентацыі творчых праектаў.<br>Сустрэчы з дзіцячай кнігай і прэсай | Дзіцячая пляцоўка (парк 50-годдзя Перамогі, вул. Леніна) |
| 20.00-22.00 | Урачыстае закрыццё Дня беларускага пісьменства.<br>Цырымонія перадачы эстафеты свята.<br>Канцэрт артыстаў Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь | Галоўная сцэнічная пляцоўка (РЦК, стадыён) |

* Больш падрабязную праграму свята можна спампаваць на сайце Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь *www.mininform.gov.by*

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2886
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 29.08.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3383
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686